


## Пабожныя псальмы пад вясёлы клёкат, Або як ксёндз бусляня гадаваў

Стар. 8-9



ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№5 (50) май 2015 год

CATHOLICNEWS.BY





# “Працяжнік у будучыню”.

## У Дзеркаўшчыне адсвяткавалі 25-годдзе аднаўлення святыні

Чытайце на старонцы 10

# Папа і Перамога

**Сёлета адзначаецца 70-годдзе заканчэння Другой сусветнай вайны на тэрыторыі Еўропы. 6 мая 2015 г. Святы Айцец з гэтай нагоды звярнуўся да палітыкаў з заклікам спрыяць фарміраванню культуры міру.**

**а. Зміцер Чарнель**, *рэдэмптарыст*



*"У найбліжэйшыя дні будзе адзначацца 70-я гадавіна заканчэння Другой сусветнай вайны ў Еўропе. З гэтай нагоды я давяраю Пану, праз заступніцтва Марыі, Каралевы супакою, жаданне, каб чалавечае грамадства вынесла ўрокі з памылак мінулага і каб таксама ва ўмовах бягучых канфліктаў, што раздзіраюць некаторыя рэгіёны свету, усе, хто кіруе лёсам народаў, працавалі на карысць агульнага дабра і спрыялі фарміраванню культуры міру"*, – передае словы Папы Беларуская служба Ватыканскага радыё.

У звароце Святога Айца адносна гэтай падзеі мы не сустракаем ні ўзнёслага тону, ні захаплення гераізмам змагароў ці смеласцю герояў – так звыклых для нашага вуха. Зусім не ў гэты бок звяртаецца погляд кіраўніка Каталіцкага Касцёла. Папа Францішак кажа пра ўрокі мінулага і фарміраванне культуры міру. Бо на самай справе тая перамога, якой бы важнай яна ні была, не стала заканчэннем апошняй вайны ў гісторыі чалавецтва, на жаль.

70 гадоў пасля вайны – той, далёкай, Другой сусветнай. Аднак зусім побач з намі да гэтага часу працягваюцца іншыя войны. Пачынаюцца, заціхаюць і зноў разгараюцца. Адкуль яны бяруцца, чаму працягваюцца дагэтуль?

> **"Святкуючы перамогу ў вайне, нельга забываць пра тое, чаму гэтая вайна пачалася"**

Памятаючы пра пэўную падзею, нельга ігнараваць яе прычыны. Святкуючы перамогу ў вайне, нельга забываць пра тое, чаму гэтая вайна пачалася. Войны не пачынаюцца з нічога, іх пачынаюць людзі з пэўнымі і даволі вызначанымі намерамі і матывамі, якія, безумоўна, вельмі далёкія ад дабрадзейнасцяў. Тое, што пачынае войны, гэта штосьці, што жыве ў чалавеку, што знаходзіцца ў яго душы. Гэтыя рэчы называе св. ап. Ян: *"Пажаданне цела, прагавітасць вачэй ды пыхлівасць жыцця"* (1 Ян. 2, 16). Прагнучы самаўзвышэння, абагачэння, задавальнення чалавек трапляе ў вір спакусаў, паддаецца ім і становіцца іх слугою. Калі гэты чалавек шараговы, ён шкодзіць сабе і тым, хто вакол яго, але калі ў такі вір трапляюць людзі, надзеленыя ўладаю і вялікімі магчымасцямі, шкода гэтая становіцца непамерна вялікай.

У духоўнай рэальнасці любая вайна ёсць не супрацьстаяннем розных палітычных сістэм ці ідэалогій, дзяржаў ці палітычных груповак, гэта барацьба людской грэшнасці супраць чалавечай сутнасці. Гэта прыклад таго, на што здольны грэх у чалавеку, калі ён бесперашкодна будзе расці і разрастацца ў душы. Здавалася б, нашыя думкі і ўчынкі нязначныя, нашыя грахі звычайныя. Але вось такі чалавек атрымлівае большыя магчымасці, і гэты грэх пачынае прыносіць плён, сувымерны з гэтымі магчымасцямі.

Менавіта таму Святы Айцец звяртаецца да палітыкаў, тых, хто кіруе лёсамі народаў, да тых людзей, якія маюць найбольшыя магчымасці, каб яны выхоўвалі культуру міру і дбалі пра агульнае дабро.

Ідэя Гітлера пра вышэйшасць нямецкай нацыі, барацьба за "жыццёвую прастору для нямецкага народа", намаганні савецкіх камуністаў па падрыхтоўцы сусветнай пралетарскай рэвалюцыі і падобнае да гэтага ці не з'яўляюцца праяўленнем надзвычайнай людской пыхі, даведзенай да абсурду? Грэх даволі матэрыяльны. І заклік Папы Францішка – гэта прапанова зрабіць матэрыяльнай дабрадзейнасць. Няхай дабро кожнага з нас паасобку будзе асновай для ўзрастання міру паміж народамі, павагі паміж людзьмі і прабачэння адно аднаму. Бо толькі гэта будзе сведчыць, што ўрокі гісторыі для нас прайшлі не марна.

# Прадстаўнікі Каталіцкага Касцёла і Праваслаўнай Царквы пракаментавалі выказванні Лукашэнкі на адрас святароў




**Кс. Юрый Санько, выканаўца абавязкаў прэс-сакратара Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў Беларусі,** *фота catholic.by*

**Прадстаўнікі Праваслаўнай Царквы і Каталіцкага Касцёла ў Беларусі пракаментавалі па просьбе БелаПАН заявы на адрас святароў, зробленыя Аляксандрам Лукашэнкам 29 красавіка падчас штогадовага паслання да беларускага народа і парламента.**

Закрануўшы дэмаграфічнае пытанне, Лукашэнка, у прыватнасці, заявіў: для таго каб выступаць за сям'ю, трэба самім мець дзяцей. "Я часта крытыкую непублічна нашых святароў, асабліва высокага ўзроўню. Ну так за сям'ю выступаюць і агітуюць! Калі я пытаюся: ваша свтасць, ваша высакароддзе, колькі дзяцей у вас? Няма. Ну дык што вы агітуеце? Для таго, каб выступаць у абарону, трэба самім мець дзяцей. Што за дрымучасць? Святар вялікага ўзроўню не павінен мець дзяцей? Ну што гэта такое? Упэўнены, што цішком дзесьці нешта касячаць. Я не тое што ўпэўнены, я ведаю гэта. Гэта нармальна. Дзеці павінны быць, каб быць чалавекам. Без дзяцей не чалавек. Бывае, чалавек хворы. У нас у дзіцячых дамах яшчэ не ўсіх разабралі".

Прэс-сакратар Беларускай Праваслаўнай Царквы протаіерэй Сергій Лепін з гэтай нагоды заўважыў, што зарок бясшлюбнасці даюць манахі, якімі з'яўляюцца святары, што маюць сан біскупа і вышэйшы. "Жанаты святар не можа стаць біскупам, не прыняўшы манаства. Усе біскупы Праваслаўнай Царквы адпаведна з канонамі не маюць сям'і. Кіраўнік Беларускай Праваслаўнай Царквы не мае сям'і, ён манах", – сказаў Лепін. Ён таксама дадаў: "У нас няма падстаў сумнявацца ў тым, што біскупы Беларускай Праваслаўнай Царквы захоўваюць зарок бясшлюбнасці і вядуць пабожны лад жыцця адпаведна з канонам веры і маралі Праваслаўнай Царквы".

У сваю чаргу выканаўца абавязкаў прэс-сакратара Канферэнцыі каталіцкіх біскупаў ксёндз Юрый Санько заявіў, што ўсе каталіцкія святары не ўступаюць у шлюб і, адпаведна, не маюць сэксуальнага жыцця. "Бясшлюбнасць – гэта адзін з зарокаў, які прымаецца чалавекам свядома, і ён вельмі важны для прадстаўнікоў Каталіцкага Касцёла", – сказаў ксёндз Санько.

Пры гэтым ён адзначыў, што "святары актыўна займаюцца сацыяльнай працай, выкладаюць у нядзельных школах, аказваюць падтрымку сем'ям". "Для многіх парафія становіцца сям'ёй. Ёсць сямейны рух, які курыруюць святары, таксама ёсць практыка духоўнага бацькоўства. Святары дапамагаюць выхоўваць хросных дзяцей, паказваючы прыклад словам і справай", – падкрэсліў прадстаўнік Каталіцкага Касцёла ў Беларусі.

*belapan.by*

*In memoriam*

# Такім ён застаўся ў памяці...

**На 9 мая 2015 года прыпадае 3-я гадавіна смерці ксяндза-каноніка Уладаса Пятрайціса.**

У памяці вернікаў ксёндз Уладас Пятрайціс застанецца чалавекам шчырай дабрыні, які адзначаўся простасцю, адкрытасцю і сардэчнай адданасцю справе Касцёла на Мёршчыне, а таксама ў Слабодцы і Іказні Браслаўскага раёна.



Ён прыехаў у Мёры ў 1985 годзе малады, але ўжо цвёрды ў веры, паслухмяны Божай волі і прынцыповы ў яе выкананні. Яго пастырская навука з першых дзён служэння ўразіла такой пранікнёнасцю, што людзі не маглі не прыходзіць у касцёл зноў і зноў. Ішлі па адказы на пытанні, якія дагэтуль шукалі ўсё жыццё, слухалі слова святара і нібы нараджаліся нанава.

Кожная сустрэча з ксяндзом Уладасам Пятрайцісам у касцёле ператваралася ў свята веры і любові, духоўнага яднання, адкрыцця дабра і праведнасці. Адметна, што літовец на нацыянальнасці, жыхар горада Каўнаса, стаў весці святую Імшу пабеларуску. Як пазней сам жартаваў, нават думаць пачаў па-беларуску.

У касцёл ахвотна пацягнуліся дзеці, моладзь, інтэлігенцыя. А колькі людзей збіралася ў касцёл на святы і іншыя ўрачыстасці, каб пачуць мудрыя і шчырыя яго казанні, якія былі зразумелыя кожнаму верніку! Здавалася, што ксёндз Уладас у гэтыя хвіліны зазірае з амбона ў душу кожнага чалавека і дае тую самую параду, якой чалавек чакае ў касцёле.

Можна ўявіць, колькі сілы і клопату каштавалі яму пераўтварэнні, якія адбываліся па яго ініцыятыве і з яго непасрэдным удзелам у святыні ў Мёрах, а таксама ў парафіяльных супольнасцях з наваколля. І як адметна адзначыў у сваіх успамінах спадар Уладзімір Арлоў, "Пятрайціс многае зрабіў упершыню. Распачаў пілігрымкі сваіх парафіянаў да Будслаўскай Маці Божай, паставіў першы на той час у Еўропе помнік ненароджанаму дзіцяці, пакінуў пасля сябе ў Слабодцы, на Браслаўшчыне, помнік Еўфрасінні Полацкай".

Сёлета 20 студзеня адзначалася 60-годдзе з дня нараджэння ксяндза Уладаса Пятрайціса. Бог даў яму кароткае жыццё, але ксёндз меў шмат талентаў, якія выкарыстоўваў, каб весці людзей да Бога.

У трэцюю гадавіну смерці ксяндза Уладаса Пятрайціса мы молімся ў яго інтэнцыі і просім Пана Бога давесці яго душу ў Нябеснае Валадарства.

*Ад імя вернікаў,*
***Алена Сакалоўская***

*Міласэрнасць*

# Просьба о помощи

**Мацкевич Карина, 25.05.1995 г.р., Витебская обл., г.Поставы.**

У Карины первый очень ранний костно-мозговой рецидив. Впервые диагноз «Острый лимфобластный лейкоз» девушке поставили осенью 2013 года. Карина не унывала и, не отрываясь от учебы в университете, прошла курс лечения и вышла в ремиссию, начала строить планы на будущее. Но болезнь вернулась очень быстро даже на фоне поддерживающего лечения.

С марта 2015 г. Карина проходит новый курс химиотерапии, и каждый сеанс дается ей нелегко. Впереди ждет трансплантация костного мозга от неродственного донора.

Недавно Карину перевели из стационара в дневное отделение. Снимать жилье в Боровлянах очень дорого.

Сейчас девушка вместе с мамой временно находится в «Каритас». Так как она уже совершеннолетняя, то пребывание там обходится 200 долларов в месяц.

Когда освободится домик около центра, то их переведут туда. За пребывание в домиках тоже надо платить – в среднем 80 тысяч за день. Сколько дней Карина будет посещать дневной стационар до начало процедуры трансплантации, пока неизвестно.

Карина из простой семьи. Сама она студентка дневного отделения Витебского государственного университета им. П.М. Машерова. Карина – будущий педагог.

Мама Татьяна Францевна вынуждена была уволиться, чтобы помогать дочери



в больнице. Семья живет за счет небольшого пособия Карины и заработков папы, но зарплаты в районном городке небольшие.

**Семья нуждается в материальной поддержке для оплаты жилья на время пребывания в дневном стационаре.**

Благотворительные счета открыты в ОАО СБ «Беларусбанк», в филиале №614/143 – а.г. Лесной , д.16а.

- белорусские рубли — транзитный счёт №3819382106084 на благотворительный счёт №000164;
- российские рубли — транзитный счёт №3819382119635 на благотворительный счёт №000131;
- доллары США — транзитный счёт №3819382119635 на благотворительный счёт №000155;
- евро — транзитный счёт №3819382119635 на благотворительный счёт №000140.

Назначение платежа: для зачисления на благотворительные счета, открытые на имя Мацкевич Татьяны Францевны, для лечения дочери Мацкевич Карины Владиславовны.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Ганна Працук** *(в. Шунеўцы)*, **Бенісія Пачкоўская** *(в. Гірстуны)*, **Данута Мароз** *(в. Лонскія)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Вольга Парневіч** *(в. Крулеўшчына)*, **М. В. Матус** *(Валожын)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*, **Галіна Бука** *(Шаркаўшчына)*, **Яніна Алейнік** *(в. Мосар)*, **Ірэна Сімоненкава** *(в. Мосар)*, **Ганарата Ляхновіч** *(Барысаў)*, **Ганна Карніловіч** *(в. Шунеўцы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Леакадзія Лаўнюжэнка** *(в. Старыя Габы)*, **парафіяне з Падсвілля**, **Марына Дземідовіч** *(в. Дзеркаўшчына)*, **Руфіна Адамовіч** *(в. Павяцце)*, **Вераніка Абуховіч** *(в. Дунілавічы)*, **парафіяне з Ёдаў**, **Вікторыя Свідэрская** *(в. Коты, Шаркаўшчынскі р-н)*, **Зоф'я Шылко** *(Ліда)*, **Ядвіга Гузоўская** *(Ліда)*, **Аляксандра Гушча** *(в. Оцкавічы)*, **Людміла Бараноўская** *(в. Муляры)*, **Крысціна Букатава** *(в. Муляры)*, **Таццяна Рамейка** *(в. Муляры)*, **Генавефа Дубіловіч** *(в. Муляры)*, **В.М. Віткоўская** *(в. Шудаўцы, Пастаўскі р-н)*, **Аліцыя** *(Паставы)*, **Малгажата Бервячонак** *(в. Варанцы, Глыбоцкі р-н)*, **Ядвіга Тарун** *(в. Ахрэмаўцы)*, **Генрых Задалецкі** *(в. Ахрэмаўцы)*, **Ядвіга Кісель** *(Вілейка)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*.

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

**Рэдакцыя**
**"Каталіцкага Весніка"**

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік"***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211800***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

**Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?**

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |



# Майстэрня

**Літургічнае адзенне, алтарная бялізна, дэкаратыўнае аздабленне святыні з'яўляюцца неад'емнай часткай гістарычных хрысціянскіх традыцый, якія поруч з музычным, выяўленчым, тэатральным, архітэктурным мастацтвам уваходзяць у агульны комплекс Рыма-каталіцкага набажэнства. Клапоцячыся пра прыгажосць Літургіі Рыма-каталіцкага Касцёла ў Беларусі, намаганнямі братоў-капуцынаў было створана атэлье па пашыве літургічнага адзення SACRIS VESTIBUS.**

**Вераніка Раманенкава**

Літургічнае адзенне – гэта самастойная адзінка хрысціянскага набажэнства і частка мастацка-культурнай спадчыны. Кожны перыяд літургічнага года мае сваё асаблівае ўвасабленне ў візуальным спектры аздаблення святыні і ўбраннях святароў. Літургічнае адзенне разглядаецца як знешні, рэчавы вобраз нябеснай вопраткі Хрыста, анёлаў і святых. Але трэба разумець, што сучасны выгляд літургічнага адзення не з'яўляецца вызначэннем Пана Бога. Гэта вынік гістарычнага развіцця Касцёла.



У першыя тры стагоддзі існавання хрысціянства богаслужбовыя ўбранні не адрозніваліся ад адзення свецкіх людзей ні формай, ні арнаментам. IV – IX стст. – найбольш важная эпоха ў гісторыі літургічнага адзення: тады адбылося канчатковае раздзяленне богаслужбовага і штодзённага ўбрання. У перыяд з IX ст. па XIII ст. завяршыўся працэс фарміравання літургічнага адзення Рыма-каталіцкага Касцёла.

Формы, віды і колеры літургічнага адзення ад XIII ст. не змяняліся, але шматлікай трансфармацыі паддаваліся элементы дэкарацыі і аздаблення ўбораў каштоўнымі камянямі, залатымі ніткамі і інш. Найбольш каларыстычнай, багатай і тэатралізаванай вопратка святароў і літургічнай службы была ў эпоху барока.

Пасля 1620 года, у час пантыфікату Папы Урбана VIII, царкоўныя ўборы набылі функцыю вылучэння чалавека царкоўнага сану сярод свецкіх людзей. З гэтага моманту літургічнае адзенне ствараецца па строга вызначаных прапорцыях: яно павінна быць простым, без дадатковага аздаблення, мадэлі крою арыентаваныя на раннесярэднявечныя ўзоры вопраткі. Другі Ватыканскі сабор (1962-1965 гг.) зацвярджае "высакародную прастату" царкоўнага адзення.

Час нараджае стылі і знішчае іх. Перамены датычаць усяго – гісторыі, культуры, традыцый, непасрэдна чалавека, але нязменным застаецца выгляд простага літургічнага адзення, якое не падпарадкоўваецца часу, стылю, модзе.

У Сярэднявеччы касцельнае ўбранне звычайна выраблялі манахі на сваіх мануфактурах. Цяпер іх ствараюць у спецыяльных пашывачных майстэрнях – такіх, як, напрыклад, SACRIS VESTIBUS.

## Стварэнне майстэрні

Майстэрня SACRIS VESTIBUS была створана амаль год таму назад пры парафіі св. Казіміра ў г. Маладзечне. На тэрыторыі Беларусі гэта адзіная і першая постсавецкая майстэрня па пашыве літургічнага адзення для Рыма-каталіцкага Касцёла.

Майстэрня дзейнічае пад апекай Ордэна меншых братоў-капуцынаў. У супрацоўніцтве з братамі вытворчасцю вырабаў займаюцца кваліфікаваныя спецыялісты па пашыве, мадэляванні і вышыўцы адзення.

Браты-капуцыны спрабуюць адрадзіць тыя традыцыі старажытнага мастацтва, якія ў мінулым стагоддзі сталі забывацца. Адным з традыцыйных напрамкаў гэтага мастацтва з'яўляецца царкоўная вышыўка, што ў ранейшыя часы выконвалася выключна ўручную, а сёння ўсё часцей робіцца з выкарыстаннем вышывальных машын і камп'ютарнага праграмавання.

Майстэрня SACRIS VESTIBUS абсталявана сучаснымі вышывальнымі станкамі і швейнымі машынамі, якія даюць магчымасць ствараць вырабы высокай ступені складанасці з захаваннем найлепшых традыцый каталіцкага царкоўнага мастацтва.

## Асартымент майстэрні

У майстэрні можна замовіць пашыў або купіць гатовыя вырабы. Адзенне для святароў, літургічнай службы, аздабленне для храма і вырабы для розных хрысціянскіх патрэбаў адмыслоўцы могуць распрацоўваць спецыяльна для кожнага канкрэтнага заказчыка або прапануюць узоры, імі ўжо створаныя.

SACRIS VESTIBUS прапануе тэкстыльныя вырабы, прызначаныя як для святочнай, так і для штодзённай літургічнай дзейнасці:

**арнаты**: зялёныя, фіялетавыя, чырвоныя, святочныя;

**капы**;

**стулы з вышыўкай або дадатковым аздабленнем**;

**альбы**: для прэзбітараў, для лектараў, для Першай Камуніі;







# SACRIS VESTIBUS

**комжы**: для прэзбітараў, для міністрантаў;
**абрусы для алтара і літургічную бялізну**;
**сутаны**;
**тэкстыльнае аздабленне для святыні на любую ўрачыстасць**;
**адзенне для хрысціянскіх супольнасцяў** (касцюмы для парафіяльных хораў, тэатральных пастановак, пілігрымак і інш.)

## Прывабныя кошты

Мануфактура па пашыве літурнічнага адзення прапануе вельмі невысокія кошты на свае вырабы ў параўнанні з замежнымі вытворцамі. Акрамя прывабнай цаны, SACRIS VESTIBUS прадастаўляе зніжкі пастаянным пакупнікам і за аднаразовую куплю некалькіх тавараў.

## Зручнасць дастаўкі

Нарэшце, літургічнае адзенне і розныя віды дадаткаў да яго можна купіць на тэрыторыі Беларусі, а не прывозіць з-за мяжы, што займае час і выклікае дадатковыя затраты.



## Набыць вырабы мануфактуры можна:

- непасрэдна ў майстэрні па вул. Вялікі Гасцінец, д. 143"б", кв. 309, г. Маладзечна, Мінская вобл.;
- замовіць праз інтэрнэт-краму на сайце www.sacris.by;
- замовіць пры дапамозе электроннай скрынкі info@sacris.by;
- па тэлефонах: +375 29 619 53 81 (Людміла Міхайлаўна Прывалава);
  +375 29 616 93 53; +375 29 511 04 82 (а. Андрэй Жылевіч OFMCap).

## Эксклюзіўны варыянт

Мадэльер майстэрні можа распрацаваць для вас любую кампазіцыю вырабу з вышыўкамі і ўпрыгожаннямі. Напрыклад, спецыяльна для святароў францішканскага ордэна і набажэнстваў у гонар св. Францішка быў распрацаваны арнат "Супакой і дабро".

На арнаце вышыты францішканскі герб (рука Езуса Хрыста і рука св. Францішка, якія перасякаюцца праз крыж). Дадаткова арнат аздоблены тасьмой і вышыўкамі крыжоў. Вельмі просты, сціплы і духоўна глыбокі, як і сама сутнасць францішканскага манаства.

Такога кшталту літургічнае адзенне смела можна называць творамі мастацтва, зробленымі з захаваннем сакральнай значнасці і пэўных традыцый.

## Найлепшы каталіцкі падарунак

Жыццё чалавека-хрысціяніна суправаджае вялікая колькасць святаў, урачыстасцяў, розных падзей жыцця, і ў такі момант заўсёды паўстае пытанне: "Што падарыць блізкаму чалавеку, святару, знаёмы?" Найлепшым падарункам з'яўляецца той, які будзе патрэбны.

Напрыклад, святару можна падарыць арнат, стулу, альбу ці сутану – гэта рэчы, каторыя заўсёды запатрабаваныя і не страцяць сваёй актуальнасці. Будучы хроснымі бацькамі дзіцяці, можна падарыць хрысцільны набор. На іменіны можна падабраць шыкоўна вышытыя абрусы, сурвэткі і іншыя вырабы, якія для вас можа стварыць SACRIS VESTIBUS.

Мануфактура капуцынаў SACRIS VESTIBUS спецыялізуецца на вырабе прадукцыі, неабходнай для штодзённага богаслужбовага жыцця і ўпрыгожвання храма. За дастаткова кароткі час яна зарэкамендавала сябе як надзейны беларускі вытворца высакаякаснай тэкстыльнай прадукцыі, што поўнасцю адпавядае ўсім канонам Рымска-каталіцкага Касцёла.

SACRIS VESTIBUS імкнецца адрадзіць беларускія храмы, узбагаціць каталіцкае насельніцтва Беларусі неацэннымі вобразамі традыцыйнага тэкстыльнага касцельнага мастацтва, якія роднымі гукамі гістарычнай гармоніі адгукаюцца потым у вачах і сэрцах кожнага з нас.

Бліжэй пазнаёміцца з вытворчасцю майстэрні SACRIS VESTIBUS можна на сайце www.sacris.by, дзе размешчана інфармацыя пра кошты, якасць тканіны, а таксама фотаздымкі вырабаў.







Альба для Першай Камуніі

# Успаміны з пілігрымкі

**Вось толькі што вярнуліся з пілігрымкі па святых месцах, якая працягвалася з 26 красавіка па 3 мая. Група была з 38 чалавек у складзе парафіянаў з Пастаў і некалькі вернікаў з Лёзна, Мінска і Барысава. Арганізатарам выступіў кс. Анджэй Бульчак, дапамагалі яму кс. Алег Півавар і сястра Канстанцыя, за што мы, пілігрымы, ім вельмі ўдзячныя, бо вандроўка атрымалася цудоўнай, сапраўды захапляльнай.**



На працягу ўсяго шляху мы маліліся і спявалі, наведалі многія святыя месцы.

Напачатку быў Вільнюс. Вельмі цікавая экскурсія па горадзе з наведваннем Дома-музея св. сястры Фаўстыны, потым – ранішняя Імша, якую цэлебравалі нашы святары ў капліцы Маці Божай Вострабрамскай. Затым мы накіраваліся ў Польшчу, у Чэнстахову. Тут наведалі Санктуарый Маці Божай Чэнстахоўскай, дзе падчас кожнай ранішняй Імшы (а гэта вельмі рана – а 6-ай гадзіне) пад гучанне фанфараў адкрываецца цудоўны абраз Маці Божай Яснагурскай. Гэта вельмі ўражвае! Пазнаёміліся з многімі касцёламі, комплексамі, музеямі і памятнымі месцамі горада. Затым была паездка ў Асвенцым, дзе чалавечая трагедыя мільёнаў кранула ўсіх да слёз...

Мы таксама прысутнічалі на святой Імшы ў Кальварыі Забжыдоўскай. Адтуль паехалі на радзіму Папы Яна Паўла II у горад Вадавіцэ, дзе нарадзіўся, вучыўся і правёў свае маладыя гады Караль Вайтыла. У Доме-музеі сабраны экспанаты таго часу: многія рэчы, дакументы і здымкі. Палякі вельмі ганарацца і шануюць памяць свайго Караля (як яны любоўна называюць Папу), бо, сапраўды, яны маюць рацыю. Гэта чалавек нумар адзін не толькі для Польшчы – гэта насамрэч Чалавек і Папа для ўсяго свету, роўных яму няма! Ён столькі зрабіў для аб'яднання ўсіх хрысціянаў і ўзмацнення веры каталіцкай! Яго дэвіз – "час праходзіць, а вечнасць нас чакае..."

Тры дні мы прабылі ў цудоўным горадзе Кракаве, які на працягу пяці стагоддзяў з'яўляўся сталіцай Польшчы. Гэта сапраўды горад-музей. Тут знаходзіцца амаль 200 касцёлаў, шмат музеяў і гістарычных месцаў. Гэты горад паўплываў на рэлігійнае фарміраванне Яна Паўла II. Мы наведалі многія касцёлы і святыя месцы, але найбольшае ўражанне зрабілі на нас сучасны касцёл Яна Паўла II і Санктуарый Божай Міласэрнасці з вежай у 77 метраў вышынёй. Прысутнічалі на святой Імшы ў Санктуарыі Маці Божай Фацімскай у Закапанах. Касцёл гэты пабудавалі з нагоды ўдзячнасці выратавання Папы Яна Паўла II, калі ён быў паранены.

Цудоўныя краявіды Закапанаў і Татраў надоўга запомняцца ўсім.

У Беластоку мы прысутнічалі на святой Імшы ў сучасным касцёле Божай Міласэрнасці. Пры манастыры Святая Вода, дзе аб'явілася Маці Божая, пабудавана капліца і Санктуарый Маці Божай Балеснай, а побач гара Крыжовая, дзе ўстаноўлена шмат крыжоў ад паломнікаў з усяго свету, і нашыя таксама. Потым наведалі Сакулку, дзе прысутнічалі на набажэнстве ў касцёле Божай Маці. Там мы даведаліся пра цудоўнае здарэнне, якое адбылося ў 2008 годзе. Падчас прыняцця Святой Эўхарыстыі быў згублены аплатак Святой Камуніі, які праз некалькі дзён падняла з падлогі жанчына, а святар потым змясціў яго ў посуд са святой вадой. Якое ж было яго здзіўленне, калі ў гэтай вадзе ўбачылі чырвонае рэчыва, як бы кавалачак матэрыі. У наступным годзе ў лабараторыі ў Ватыкане быў зроблены шэраг аналізаў гэтага рэчыва. І ўстанавілі, што гэта сапраўдная сардэчная тканка, прычым жывая, не кансерваваная. Вось які цуд паказаў нам Пан Езус – кавалачак свайго жывога сэрца!

Нам прадэманстравалі дакументальны фільм пра гэтае аб'яўленне Пана Бога. Важным момантам нашай пілігрымкі было падараванне рэліквіі святой сястры Фаўстыны Кавальскай у Санктуарыі Божай Міласэрнасці ў Кракаве для нашай новай парафіі Езуса Міласэрнага ў Паставах.

Вось на такіх пазітыўных эмоцыях мы вярталіся з нашай пілігрымкі. Я шчыра дзякую ўсім удзельнікам за ўвагу адно да аднаго, за паразуменне і веру.

*З павагай і ўдзячнасцю,*
***Аліцыя Трафімовіч,***
*г. Паставы*

# Пяць шчаслівых дзён



**Мой дзень нараджэння сёлета прыйшоўся якраз на Вялікдзень, 5 красавіка. І я разам з мужам атрымала падарунак ад дачкі і зяця – цудоўную паездку ў Рым. Ляцелі з Мінска ў Франкфурт, дзе жыве наша дачка, а ўжо з Франкфурта – у Рым. Гэта цудоўна – бачыць з ілюмінатара гарады і заснежаныя Альпы ў ясны сонечны дзень!**



У Рыме ўразілі пальмы і фруктовыя дрэвы, на якіх спеюць мандарыны, апельсіны, лімоны, і гэта ў той час, калі ў нас яшчэ холадна і нідзе ніякай зеляніны. Узрушыла архітэктура Вечнага Горада. Гасцініца, у якой мы спыніліся, знаходзілася за дваццаць хвілін пешшу ад Ватыкана. Бог даў шчасце і нам пабываць у Сэрцы і Сталіцы ўсіх католікаў, наведаць музей Сікстынскай Капэлы, дзе выстаўлены шэдэўры архітэктуры і мастацтва, сабраныя святымі айцамі на працягу двух тысячагоддзяў. Скарб велізарны.

Хачу больш падрабязна расказаць пра Крыжовы Шлях у Вялікую пятніцу, які распачаўся а дзявятай гадзіне вечара на ўзвышшы каля Калізея. Там паставілі балдахін для Папы Францішка, а побач – высачэзны металічны крыж, аздоблены вогненнымі, палымнелымі паходнямі. На ўзвышшы і праходзіў Крыжовы Шлях. Мы маглі толькі назіраць і слухаць малітву (ад якой мароз па скуры) з плошчы каля Калізея, дзе знаходзілася прыкладна 40000 чалавек. З намі былі святары і манахіні з усяго свету. Як пацямнела, усе людзі запалілі свечкі. Гэта было непаўторнае відовішча на фоне залітага месяцовым святлом старажытнага Калізея! І хоць мы прастаялі на нагах чатыры гадзіны, не чулі болю і нават яго не слухалі. Быў такі ўзнёслы настрой, такая любоў да Бога, да Папы Францішка, да ўсіх людзей, што так шчыра чакалі свята Змёртвыхпаўстання, перажываючы гэты Крыжовы шлях.

Суботні дзень прайшоў у наведванні рымскіх касцёлаў з іх багатым убранствам і непаўторнай архітэктурай. Адбылася пешая прагулка па антычным Форуме, што спрыяла духоўнай падрыхтоўцы да святой Імшы на плошчы святога Пятра.

Нядзеля, 5 красавіка, сустрэла нас хмарным небам. І разам з пачаткам святой Імшы пачаўся дождж – як з вядра. Напэўна, Бог паслаў яшчэ адно выпрабаванне для вернікаў. Але ніхто не пакінуў гэтае святое месца. Мы знаходзіліся ў першым сектары, дзе было ўсё бачна і чутна, таксама прынялі Святую Камунію.

Напрыканцы Імшы дождж скончыўся. Павесялелыя людзі чакалі папскага благаслаўлення. Святы Айцец аб'язджаў плошчу на сваім папамабілі, лагодна ўсміхаўся вернікам і блаславіў іх. Хоць і прамоклі да ніткі, але засталіся яшчэ чакаць благаславення Папам усіх народаў з балкона сабора святога Пятра. На многіх мовах прагучала благаславенне, пачулі і родную беларускую. А асаблівую ўвагу Пантыфік надаў гаротнай Украіне.

Потым быў яшчэ і панядзелак у Рыме, знаёмства са славутасцямі Вечнага Горада. Пяць дзён, пяць дзён сапраўднага шчасця! Хоць і закончылася наша падарожжа, але памяць пра яго захаваецца доўга.

***Ірына Рубанік,***
*в. Ідолта (Мёрскі раён)*

# Як выглядае Ваша нядзеля?

**Нядзеля ў хрысціянскіх краінах лічыцца святым днём, які трэба прысвяціць Богу і для адпачынку. А як выглядае гэты дзень у беларускіх вернікаў?**

*Ірына Грэйць*



**Настасся Голец:**

– Калі спыталі, як выглядае мая нядзеля, то крыху паставілі ў тупік. На першы погляд, гэта звычайны дзень. Але, з другога боку, да гэтага дня ў маёй сям'і заўсёды ставяцца з павагай. Так атрымалася, што мой бацька вымушаны працаваць амаль шэсць дзён на тыдні, і нядзеля – гэта той час, калі мы можам сабрацца разам, адпачыць. Дзень заўсёды пачынаецца са святой Імшы. Да кожнай Імшы рыхтуемся як да свята, заўсёды адчуваецца радасны настрой. Сама заўсёды ўдзельнічаю ў жыцці Касцёла, а менавіта спяваю ў моладзевым хоры. Пасля Імшы праведваем бабуляў, дзядуляў і астатніх сваякоў, праводзім час разам.



**Вольга Русакова:**

– Мая звычайная нядзеля выглядае наступным чынам. Раніцай устаю дзесьці а 10 гадзіне, гатую сабе сняданне і абед, а таксама, бывае, ежу на панядзелак і аўторак (бо вучуся і жыву адна, далёка ад бацькоў і не заўсёды хапае часу ў будні дзень). Далей дарабляю дамашнія заданні ва ўніверсітэт, калі не паспела раней зрабіць. Іду на фітнес або проста размаўляю з сяброўкамі, як калі. Потым магу пачытаць любімую кнігу або пайсці пагуляць у парк адна ці з сяброўкамі. У 17.30 у маім касцёле св. Крыжа ў Варшаве ладзіцца рэпетыцыя хору, таму еду туды. А 19-ай пачынаецца Імша, на якой спяваю ў моладзевым хоры. Пасля заканчэння размаўляем крыху з сябрамі. Вечарам прыязджаю і рыхтуюся да сну.



**Арцём Ткачук:**

– У дадзены момант разам з нарачонай працуем у місіі ў Камеруне. Нядзеля тут заўсёды адналькавая. Раніцай сняданак, трошкі вольнага часу, а 10-й гадзіне супольная св. Імша. Звычайна дзеці пасля абеду нешта дамываюць са свайго адзення ці рыхтуюць заняткі на панядзелак. Часта арганізоўваем футбол, дзяўчаты ў сваё нешта гуляюць, нават не ведаю, як гэта называецца (нешта кшталту класікаў). Вечарам глядзім фільм або праводзім нейкі лёгкі занятак. Нядзеля заўсёды больш спакойны дзень, і гэта цудоўна! Заўсёды можаш зрабіць тое, што хацелася, але на што не было часу.



**Вальдэмара Шышко:**

– Свой жыццёвы расклад я размяркоўваю прыблізна так. Працоўны тыдзень – ён і ёсць працоўны. Вядома ж, як у пенсіянеркі, кветкі, агароды, птушкі... Ну а нядзеля – гэта асаблівы час, калі рукам трэба адпачыць і неабходна выдзеліць хвіліны для душы. Па магчымасці наведаць капліцу ў Навасёлках (Лучайская парафія), паразмаўляць з Богам, падзякаваць Яму за дадзеную магчымасць пажыць на гэтым свеце, яшчэ раз убачыць вясну ў сваіх кветках. Таксама сустракаюся ў гэты дзень з роднымі людзьмі. Свае думкі магу выказаць вершаванымі радкамі:

*Дзякуй Богу за ўсё: за дзяцей і за хлеб, за жыццё на Зямлі,*
*За Святло, што ў цемры мой шлях асвятляе.*
*Маці Божая, ласкай сваей ахіні,*
*Ад грахоў у Цябе паратунку шукаем!..*



**Алёна Шаршунс:**

– Як выглядае мая нядзеля!? Увогуле, нядзеля для мяне і маіх родных лічыцца сямейным днём адпачынку і днём Божым. Так было закладзена мне з маленства маімі бацькамі, дзядулем, бабулямі і прабабуляй. А зараз я таксама захоўваю гэтую традыцыю ў сваёй маленькай сям'і. Кожную нядзелю ўсе абавязкова ідзём у касцёл, а потым рыхтуем святочны абед. А далей адпачываем разам ці то на свежым паветры, ці то дома. Бывае так, што едзем да бацькоў, але ад гэтага наша нядзеля не змяняе свайго сэнсу.

Па-іншаму быць не можа, бо нядзеля для нас – гэта, так скажам, зарад сілы, моцы, веры і Божага благаслаўленння на новы працоўны тыдзень, на новыя жыццёвыя справы.

## Першая Святая Камунія ў Уле і Бешанковічах

10 мая 2015 года, у нядзелю, у касцёле Святой Тройцы ў Уле, а таксама ў касцёле св. Пятра і Паўла ў Бешанковічах 17 маленькіх вернікаў упершыню ў сваім жыцці прыступілі да сакраманту пакаяння і прынялі Эўхарыстыю. Урачыстасць Першай Камуніі – радасная падзея не толькі для дзяцей, іх бацькоў і родных, але і для ўсёй парафіяльнай супольнасці, якая па сутнасці з'яўляецца адной вялікай сям'ёй. Вядома, праз хрост кожнае дзіця далучана да супольнасці Касцёла. Але толькі тады, калі хлопчык ці дзяўчынка прыступяць да споведзі і прымуць Камунію, яны становяцца паўнапраўнымі прысутнымі ў гэтай сям'і і поўнасцю карыстаюцца Божай ласкай, якую даюць ім сакраманты.

Пад кіраўніцтвам ксяндза Аляксандра Півавара дзеці старанна рыхтаваліся да гэтай важнай падзеі ўвесь год: вучылі малітвы, разважалі аб слове Божым, стараліся ўсім сэрцам зразумець і палюбіць Хрыста. Папярэднічала нядзельнай Імшы шчырая першая споведзь дзяцей, падчас якой яны ачысцілі свае сэрцы ў сакраманце пакаяння.

Першую Камунію ўдзяліў дзецям і павіншаваў іх з гэтай вялікай падзеяй у жыцці ксёндз Аляксандр Півавар. Святар заклікаў таксама бацькоў быць годнымі сведкамі веры для сваіх дзяцей, дапамагаць ім развіваць еднасць з Езусам Хрыстом, клапаціцца пра іх жывую веру і духоўнае развіццё.

Няхай гэтая ўрачыстасць адорыць дзяцей шматлікімі духоўнымі ласкамі і ўмацуе іх і іхнія сем'і! Няхай такая важная падзея стане відавочным знакам прысутнасці Хрыста ў яго Касцёле і ў жыцці кожнага з іх!

Жадаем, каб як найхутчэй у кожнай парафіі адбылося яднанне з Панам Езусам, а таксама з усім Касцёлам праз тое, што спажываем Ягонае Цела і Кроў.

*Таццяна Сафончык*



## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Як выглядае Ваша нядзеля?**

- У нядзелю іду на святую Імшу, а таксама раблю неабходныя бытавыя справы – 143 адказы;
- У нядзелю я прысвячаю час толькі для адносін з Богам і з блізкімі – 91 адказ;
- У нядзелю не працую, але на святую Імшу не заўсёды ўдаецца пайсці – 20 адказаў;
- У нядзелю вымушаны працаваць у сувязі з адпаведным графікам – 8 адказаў;
- Іншае – 7 адказаў;
- Праца – не грэх, таму працую і ў нядзелю – 2 адказы.

**Усяго адказаў – 271.**



# Пабожныя псальмы

## Або як ксёндз



**“Як выглядае штодзённае жыццё святара?” – такім пытаннем задаюцца многія нашы чытачы. Каб крыху прыадкрыць гэтую таямніцу, “Каталіцкі Веснік” накіраваўся ў вёску Барадзінічы, што ў Віцебскай дыяцэзіі. Там працуе кс. Юрый Ноцунь – святар ордэна сэрцанаў.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Як толькі пад’язджаем да плябаніі, нас радасным клёкатам вітае бусел. Ён стаіць на цяпліцы і з цікаўнасцю разглядае гасцей. Праўду кажучы, гэты малады буслік і быў адной з прычын, праз якую мы вырашылі завітаць менавіта ў Барадзінічы, каб бліжэй пабачыць штодзённы побыт вясковага святара.

На ганак плябаніі выходзіць жанчына старэйшага ўзросту і са здзіўленнем глядзіць на гасцей. “Мы да пробашча”, – кажам. Убачыўшы ў руках фотаапарат, яна хуценька знікае за дзвярыма. Праз хвіліну з’яўляецца сам кс. Юрый.

– Як Вам удалося прыручыць такога незвычайнага гадаванца? – ківаю галавой на бусляня.

– Я яго не прыручаў. Дзеці ўбачылі, як яго бацькі выкінулі з гнязда. – Пробашч паказвае на электрычны слуп, што стаіць ля касцёла:

– Бачыце? Вунь яго бацькі ўжо прыляцелі і рыхтуюцца выгадаваць новае патомства. А Фама быў зусім маленькі, такое белае пухнатае птушанятка. Мог і забіцца зусім. Але выжыў.

– Не спрабаваў паляцець ад Вас?

– Ды не. Я ж яго і лятаць вучыў. Падкіну ўгору і страхую, каб не пабіўся. Цяпер, калі падрос, пакружыць, бывае, над хатай і вяртаецца. Так ён у хляве і начуе, а мінулай зімой я яго дык наогул дахаты забраў, каб не замерз. Яму толькі два гады. Не выключаю, што ў будучыні зляціць ад нас, калі знойдзе сабе спадарожніцу жыцця.

Я вельмі прывык да бусліка. Ходзіць за мной паўсюль. У касцёл праводзіць, сустракае на дарозе клёкатам. Але і без яго тут сумаваць не даводзіцца.

Ксёндз Юрый паказвае рукой на загарадзь, за якой ходзяць куры, гусі і качкі.

“У вас багата жыўнасці”, – кажу. – Гэта проста хобі такое, ці неабходнасць?”

Кс. Юрый усміхаецца: “Я з дзяцінства люблю жывёл. Сам родам з Польшчы, з-пад Вроцлава. Да семінарыі вучыўся ў ветэрынарнай вучэльні. А тут, у Барадзінічах, няпроста пражыць. Таму, бывае, некаторыя з тых стварэнняў Божых трапляюць да мяне на стол. Сёння, дарэчы, вас таксама пачастую вясковым абедам. Пачакайце хвілінку, зараз пакажу касцёл”.

Пакуль кс. Юрый ідзе па ключы, для сябе адзначаю

> **“У ксяндза ёсць кот, шыншыла, 10 гусей, 2 украінскія качкі, 5 індакачак, 10 індыкоў, 16 трусоў, пчолы і бусел”**

вельмі высокі ўзровень беларускай мовы святара. Ён гаворыць амаль без акцэнту. У гэты час да нас падыходзяць дзве жанчыны. Даведаўшыся, што перад імі журналісты, наперабой радасна распавядаюць пра пробашча. “Вы ведаеце, кс. Юрый – душа-чалавек. Ён такі, як і мы. Вельмі просты, сам саджае, робіць, жывёлу даглядае. Трэба – і расадай падзеліцца. Ён жа і садавод, вунь колькі дрэўцаў сам прывіў. У кс. Юрыя 14 мая дзень святарства. Мы яго вельмі любім і віншуем. Любяць яго і дзеці. Ён жа і музыкант, на губным гармоніку, на







# пад вясёлы клёкат, буcляня гадаваў





гітары грае".

Вяртаецца пробашч і мы ідзём у касцёл, які мае тытул св. Юзафа. Па дарозе пытаюся пра вернікаў. "Вёска вымірае, гэта ж бачна, але яшчэ трымаемся. На рараты, бывала, і па 25 дзетак прыходзіла. Я сам дзівіўся. Тройчы на тыдзень рана прыйсці ў касцёл – гэта не кожны захоча".

У сцяне касцёла заўважаю памятную дошку з прозвішчам "Лапацінскі". Кс. Юрый тлумачыць: "Лапацінскія тут фундатары. Я чуў такую легенду, што пан Лапацінскі ўсю маёмасць прайграў у карты і засталася ў яго толькі адна вёска – Барадзінічы, на якую і паставіў. Дык выйграў і адыграўся і таму зафундаваў тут касцёл. А ці праўда тое – не ведаю. На фэст св. Роха прыязджае шмат людзей. А так не надта людна".

– Як утрымаць касцёл, плябанію, калі людзей не становіцца больш?

– Вернікі, канешне, ахвярныя, але што яны могуць, калі са студзеня заробку не атрымлівалі? Калі яны бедныя, то і я бедны. Святары жывуць з ахвяраваннаў.

Выходзячы з касцёла, назіраем звыклую карціну беларускай вёскі: на вуліцы стаіць аўталаўка.

"Пачакайце, я мушу купіць хлеба дахаты", – кажа кс. Юрый і ідзе да машыны. Прапусціўшы ўперад усіх вяскоўцаў, пробашч становіцца апошнім у чарзе. "Можа Вы што будзеце купляць", – пытаецца ў мяне мужчына старэйшых гадоў. "Не, я на цэны пагляджу", – адказваю.

З-за аўтапрылаўка чую голас прадаўца, які спяшаецца запэўніць, што цэны, як і ў магазіне. Не маючы прычыны, каб не давяраць гэтым словам, разглядаю тавары. Ёсць каўбасы, рыба, макароны, малочныя прадукты. Цалкам прыстойны асартымент. "Як жыццё Вашае?" – пытаюся ў бабулькі побач. "Жыць можна, дзетка, добра, што пенсію хоць плацяць" – адказвае яна.

Зрабіўшы пакупкі, вяртаемся з кс. Юрыем на плябанію. З хаты навыперадкі да гаспадара лятуць дзве вясёлыя таксы. "Гэта мае любіміцы Лінда і Гера, – распавядае пробашч. – А яшчэ ёсць кот, шыншыла, 10 гусей, 2 украінскія качкі, 5 індакачак, 10 індыкоў, 16 трусоў, пчолы і, безумоўна, бусел". Аддаўшы хлеб гаспадыні, святар на нашую просьбу ўваходзіць за загарадзь і паказвае нам украінскіх качак. Усё гэта адбываецца пад гучны гогат гусей і іншых птушыных суродзічаў.

"Зараз вам яшчэ нешта пакажу", – кажа ксёндз. Знікае на пару хвілін і прыносіць зялёныя яйкі. Задаволены нашым здзіўленнем, тлумачыць: "Не бойцеся, вазьміце сабе, яны свежыя. Гэта проста такая парода курэй. Яны нясуць менавіта яйкі з зялёным шалупіннем. Адну такую курыцу я суседу аддаў на развод. Бачыце, вельмі зручна. На Пасху і фарбаваць не трэба", – жартуе пробашч.

Абяцаны абед вельмі смачны, за што асабліва дзякуем гаспадыні – пані Франі, якая з'яўляецца надзейнай дапамогай кс. Юрыю на плябаніі і ў жывым гаспадарскім маёнтку. Пры развітанні задаю пытанне святару: "А можа б, хацелі пераехаць куды ў іншую парафію, дзе больш людзей, можа, у горад?" Кс. Юрый, нават не задумваючыся, адказвае: "Не. Мне тут добра. Бывае, канешне, цяжкавата. Асабліва зімой. Але людзі тут вельмі добрыя, а Пан Бог благаслаўляе".





# “Працяжнік у будучыню”.

## У Дзеркаўшчыне адсвяткавалі 25-годдзе аднаўлення святыні



**Біскуп Алег Буткевіч наведаў парафію Унебаўшэсця Пана ў Дзеркаўшчыне (Глыбоцкі дэканат). Візіт адбыўся 10 мая з нагоды знамянальнай даты: 25 гадоў таму касцёл перажыў свае другія народзіны.**

■ **кс. Віктар Місевіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Сама святыня была збудаваная фундатарам Дамейкам яшчэ ў царскі час – у XIX ст. Цікава, што спачатку ўлады аніяк не давалі дазволу на будаўніцтва каталіцкага храма. Пан Дамейка пайшоў на хітрасць. Ён замест святыні пачаў будаваць свіран. А пазней, калі з’явілася магчымасць, вялізная клець ператварылася ў культавую пабудову з вежамі і званіцай.

Трагічны лёс напаткаў касцёл у савецкі перыяд. Былі спробы знішчыць святыню падчас Другой сусветнай вайны. А калі памёр пробашч парафіі кс. Макшэцкі, то храм забралі ў вернікаў бязбожныя ўлады.

Распавядае Станіслава Мяховіч – парафіянка з Дзеркаўшчыны: “Людзі вартавалі касцёл, баяліся, што забяруць, але прыехалі аднойчы прадстаўнікі выканкама і забралі святыню. Нічога нельга было зрабіць. У плябаніі зрабілі школу, а ў касцёл пачалі ссыпаць збожжа. Арган разбілі. Такі цудоўны быў арган!”

Паступова будынак касцёла прыйшоў у заняпад. Заваліўся дах, засталіся толькі сцены ды калоны. Камсамольцы, што прыязджалі ў калгас на бульбу, займаліся непатрэбствам там, дзе раней адпраўлялася св. Імша і маліліся людзі.

Аднак з крахам атэістычнай улады настала новая эпоха. Людзі пачалі намагацца вярнуць разбураны храм. Ездзілі ў Маскву па дазвол, аббівалі парогі выканкамаў, аж пакуль у 1989 годзе пакалечаны касцёл не вярнулі яго сапраўднаму ўладальніку – каталіцкай парафіі.

“Касцёл адбудавалі за год”, – кажа Уладзімір Фярковіч, цяперашні старшыня парафіяльнай рады. – Людзі складалі вялікія ахвяры: па сто савецкіх рублёў. Зарплата тады ў некаторых была толькі па 70 рублёў. Не хапала матэрыялаў, было цяжка з грашыма, але затое людзі паставіліся да справы рупліва. Я сам разам са сваякамі крыў бляхай дах. Прайшло 25 гадоў з таго часу, а касцёл не працякае. Рабілі паводле сумлення. Вось гэтую жырандолю зафундавала для касцёла Гунэфа Ермаковіч. Прадала карову і ахвяравала грошы. А вунь там стаіць фігура Найсвяцейшай Панны Марыі. Гэта Зосіна фігура. Яе зафундавала Зоф’я Сарока. Харугвы шылі ў Вільні. Аж тры разы даводзілася туды ездзіць”.

Вернікі парафіі сустрэлі хлебам і соллю біскупа Алега Буткевіча. Разам з прысутнымі святарамі ён адправіў св. Імшу і ўдзяліў сакрамант бежмавання мясцовай моладзі. Пастыр дыяцэзіі заахвоціў прысутных моцна трымацца перададзенай продкамі веры і клапаціцца пра Касцёл.

Варта адзначыць прысутнасць на свяце прадстаўнікоў свецкай улады на чале са старшынёй Глыбоцкага райвыканкама Алегам Мархатам. У сваім выступе старшыня падзякаваў біскупу Алегу і пробашчу парафіі кс. Андрэю Куліку за арганізацыю і правядзенне свята. Ён таксама ўручыў парафіі ў якасці дапамогі сертыфікат на 10 млн. беларускіх рублёў.

Пасля малітвы ў касцёле ўрачыстасць працягнулася на вуліцы, дзе перад вернікамі выступілі ансамбль з в. Карабы і гурт “Рэха”.

Біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч сказаў, што юбілей дзеркаўшчынскай святыні – гэта не кропка ў яе гісторыі і не коска. Гэта – працяжнік у будучыню. Таму перад цяперашнім пакаленнем стаіць заданне захаваць касцёл і перадаць каталіцкую веру сваім нашчадкам. Тым больш, што ёсць такі цудоўны прыклад ахвярнасці і працы вернікаў у Дзеркаўшчыне.



Уладзімір Фярковіч





# Я стала каталічкай. Ці правільна зрабіла?

*"Хвала Хрысту! Паўгода таму я перайшла з праваслаўя ў каталіцтва пасля 15 гадоў шлюбу з католікам (дзеці ахрышчаны ў касцёле). Да веры мы з мужам, можна сказаць, прывялі адно аднаго, але я хадзіла ў касцёл з мужам і дзецьмі, а ў праваслаўную царкву заўсёды адна (і не рэгулярна). Я адчула, што гэта неяк нас раз'ядноўвае. Нават святы праводзіліся адны больш урачыста (каталіцкія), а іншыя – не. Я вучу дзяцей адным малітвам, а сама, атрымліваецца, малюся іншымі. Калі я перайшла афіцыйна ў каталіцтва, мне на нейкі час стала спакойна, але потым я пачала думаць пра грахоўнасць гэтага кроку. Збольшага таму, што праваслаўе катэгарычна ставіцца да католікаў і лічыць змену канфесіі вялікім грахом. А нядаўна я прачытала выказванне (на сайце catholicnews.by) ксяндза пра тое, што неабходна ўсімі сіламі захоўваць веру продкаў і пераход у іншую канфесію – вялікі грэх. Цяпер я наогул мучаюся: ці правільна зрабіла? Калі ласка, дапамажыце мне разабрацца".*
*Алеся*

**На пытанне адказвае кс. Валерый Марціноўскі:**

– Хвала навекі! Шаноўная Алеся! З Вашага ліста бачна, што Вы шукаеце еднасці і паяднання ў сям'і і ў справах веры. А гэта не можа быць грахом, які раздзяляе людзей і робіць іх не братамі, а ворагамі. Любоў кліча да адзінства, а гэта сапраўды справа Божая. Хачу працытаваць дакумент Касцёла "Unitatis Redintegratio", які кажа пра важнасць еднасці ўсіх хрысціянаў. *"Хрыстус Пан заснаваў адзін і адзіны Касцёл, хоць многія хрысціянскія Супольнасці прадстаўляюцца перад людзьмі сапраўднымі спадкаемцамі Езуса Хрыста. Усе яны вызнаюць сябе вучнямі Пана, аднак маюць розныя пераканані і ідуць рознымі шляхамі, быццам сам Хрыстус быў падзелены. Адсутнасць еднасці выразна супярэчыць волі Хрыста, з'яўляецца спакусай для свету і пры гэтым прычыняе шкоду найсвяцейшай справе абвяшчэння Евангелля ўсялякаму стварэнню"* (UR 1). Калі Вы адчулі пакліканне да адзінства з Каталіцкім Касцёлам і поўнасцю паядналіся з ім, то цяпер даверцеся кіраванню Духа Святога і крочце шляхам збаўлення, якім Касцёл вядзе сваіх дзяцей праз свядомае хрысціянскае жыццё. Аднак няхай у Вашым сэрцы будзе ўдзячнасць да Праваслаўнай Царквы, праз паслугу якой Вы прынялі хрост. Што датычыць справы веры продкаў, то Вы, напэўна, не сталі здраднікам, бо праўдзівая вера адкрывае чалавека на пошукі еднасці з Богам, з сабой і з бліжнімі. Ёсць вялікая небяспека для хрысціян у павярхоўных выказваннях, якія часта выкліканы зусім не сапраўдным клопатам пра збаўленне душ, кшталту "хадзіць да католікаў – грэх". Няхай Вашы пошукі Бога не будуць базавацца на таких сцвярджэннях, хоць бы яны прыпісваліся святым.



Памятайма, што святымі чыніць Бог грэшнікаў, якія запрасілі Бога ў сваё жыццё па-сапраўднаму. Таму не кожнае слова святых мы можам успрымаць як натхнёнае Святым Духам. Чытайце Св. Пісанне і настаўленні Паўсюдных Сабораў, і гэта дасць абгрунтаваную пэўнасць у выбраным шляху. Таму напрыканцы няхай заахвочваннем для Вас будуць словы з вышэй цытаванага дакумента Касцёла, які падкрэслівае, што няма сапраўднага пошуку адзінства без унутранай перамены. *"З абнаўлення розуму, з самавырачэння і са шчодрага праліцця любові нараджаецца і сталее жаданне еднасці".* Таму мы павінны выпрошваць у Духа Святога ласку шчырай аддандасці, пакоры і лагоднасці ў служэнні, а таксама дух братняй велікадушнасці да іншых.

*"Малю вася, –* кажа Апостал народаў, *– вязень Пана, паступаць згодна з пaкліканнем, якім вы пакліканы, з усёю пакораю і лагоднасцю, з доўгацярплівасцю, церпячы адно аднаго ў любові, стараючыся захаваць еднасць Духу ў саюзе спакою"* (Эф 4, 1-3)…

*"Няхай усе вызнаўцы Хрыста памятаюць, што яны тым больш будуць садзейнічаць справе еднасці хрысціянаў, а нават ажыццяўляць яе, чым больш будуць імкнуцца весці беззаганнае жыццё ў духу Евангелля. Наколькі цеснай будзе сувязь з Айцом, Словам і Духам, настолькі лягчэй ім будзе паглыбіць і пабудаваць узаемныя братэрскія адносіны"* (UE 7).

# Што такое "святатацтва"?

*"Растлумачце, калі ласка, што такое "святатацтва"?"*
*Алена*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**



– Святатацтва – маральна дрэнны чын, які, здзейснены свядома і добраахвотна, становіцца цяжкім грахом супраць першай запаведзі. Згодна з навучаннем Касцёла, святатацтва – гэта прафанацыя або нягодныя адносіны да сакрамантаў і іншых літургічных дзеянняў, а таксама да асобаў, рэчаў і месцаў, прысвечаных Богу (пар. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 2120).

## Прафанацыя і нягодныя адносіны да сакрамантаў

Прыняцце сакрамантаў без веры, без жадання сустрэчы з Богам, а таксама без выканання неабходных умоваў ёсць святатацтвам. Варта тут прыгадаць, што для прыняцця большасці сакрамантаў (канфірмацыя, Найсвяцейшы Сакрамант, святарства і сужэнства) патрэбна быць у стане асвячальнай ласкі. Акрамя таго, прыняцце сакрамантаў без належнай павагі і адносін любові, напрыклад, дзеля меркавання людзей або звычаю (каб кепска не падумалі) ці дзеля насмешкі – гэта таксама святатацкія чыны. Частка сакрамантаў прымаецца адзін раз у жыцці, і вернікі рыхтуюцца да іх належным чынам. Ёсць, аднак, два сакраманты – Споведзь і Святая Камунія, – якія прымаюцца часта.

Сакрамант паяднання і пакаяння можа быць прафанаваны праз запісванне і публікацыю зместу споведзі, выяўленне верніка і яго грахоў, за што асоба, якая гэта здзяйсняе, трапляе ў экскамуніку (пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 967, 1388). Святатацтвам ёсць затойванне на споведзі цяжкіх грахоў, высмейванне споведзі, насмешкі са спаведніка, а таксама прыняцце гэтага сакраманту без веры і не дзеля любові Божай, але як было сказана вышэй.

Найцяжэйшым святатацкім чынам ёсць прафанацыя Найсвяцейшага Сакраманту, г. зн. зневажанне, выкраданне, знішчэнне або апаганьванне Цела і Крыві нашага Пана Езуса Хрыста, прысутнага ў святых постацях. Касцёл вучыць, што той, хто пакідае або забірае ці захоўвае кансэкраваныя постаці дзеля святатацкіх мэтаў, падлягае найвышэйшаму пакаранню – экскамуніцы (пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 1367).

Чыны, пералічаныя вышэй, дзякуй Богу, рэдкія. Часцей святатацтва адносна Найсвяцейшага Сакраманту здараецца, калі хтосьці без належнай пашаны і веры прыступае да стала Пана. Ужо св. Павел перасцерагаў: *"Хто есць і п'е, не зважаючы на Цела [Пана], той есць і п'е на сваё асуджэнне"* (1 Кар 11, 29). Такім святатацтвам ёсць, напрыклад, прыняцце Святой Камуніі ў стане цяжкага граху, без паяднання з Богам і Касцёлам у сакраманце споведзі. У адносінах да Найсвяцейшага Сакраманту святатацтвам з'яўляецца таксама прыняцце Святой Камуніі часцей чым два разы на працягу дня. Пры гэтым трэба памятаць, што Касцёл дазваляе прыняць Святую Камунію другі раз на працягу дня толькі пры ўмове поўнага ўдзелу ў святой Імшы (пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 917).

## Прафанацыя сакраманталіяў і прадметаў культу

Сакраманталіі – гэта святыя знакі, такія, як асвячэнне, благаславенне вады, медалікаў, шкаплераў і інш. Яны, падобна да сакрамантаў, паказваюць перадусім на духоўныя даброты, якія вернікі атрымліваюць дзякуючы заступніцтву Касцёла, падрыхтоўваюць да прыняцця сакрамантаў і асвячаюць розныя падзеі і акалічнасці жыцця (пар. 1668-1671). Нягодныя адносіны да сакраманталіяў, насмешкі з іх, выкарыстанне не згодна з мэтай благаслаўлення ёсць святатацтвам. Трэба быць вельмі ўважлівым пры карыстанні асвячонымі матэрыяльнымі рэчамі, такімі, як вада, алей, соль, крэйда, кадзіла, свечкі ды іншыя. Яны не могуць выкарыстоўвацца як неасвечаныя або як нешта з магічнай сілай, падобна да забабонаў.

Крыж як знак перамогі Хрыста над смерцю, Святое Пісанне, а таксама асвечаныя выявы Найсвяцейшай Панны Марыі і святых, такія прадметы рэлігійнага культу, як ружанцы, медалікі, шкаплеры і іншыя патрабуюць па сваёй сутнасці асаблівай пашаны. Іх нельга выкінуць у сметніцу або выкарыстаць не ў адпаведнасці з верай. Калі такія асвечаныя рэчы падлягаюць знішчэнню, іх пераважна або спальваюць або закопваюць у зямлю. Ёсць благаслаўлення рэчаў, якія не прызначаюць іх выключна да Божага культу, напрыклад, асвячэнне школы, пякарні ці завода. Такія благаслаўленні выпрошваюць Божыя ласкі тым, хто якім-небудзь чынам з імі звязаны.

## Святатацтва адносна месцаў і асобаў, прысвечаных Богу

Асаблівымі месцамі, прысвечанымі Богу, з'яўляюцца касцёлы, капліцы, прыдарожныя капліцкі. Хоць асвечаныя могілкі не выступаюць непасрэдна такімі месцамі, але ім таксама належыць пашана. Нягодныя паводзіны ў гэтых месцах, непатрэбныя размовы, выкарыстанне іх дзеля нерэлігійных мэтаў, а таксама неадпаведнае адзенне, адсутнасць павагі да Бога – усё гэта святатацтва. Будынак касцёла – гэта не толькі месца культу, але дом Божы, у якім сам наш Збаўца Езус Хрыстус прысутны ў Найсвяцейшым Сакраманце ў табэрнакулюме. Уваходзячы ў святыню, католікі, якім дазваляе стан здароўя, укленчваюць, каб праславіць праўдзівае Цела і Кроў Пана нашага Езуса Хрыста. Святатацтвам з'яўляецца наўмысная перашкода святару і вернікам падчас святой Імшы, набажэнства або малітвы, а таксама крадзеж у касцёле, свядомае пашкоджанне ці знішчэнне алтара, манстранцы, абразоў, келіхаў і іншых касцельных рэчаў.

Асобы, прысвечаныя Богу ці то ў сакраманце святарства, ці праз манаскія шлюбы, заслугоўваюць пашаны дзеля Бога, якому прысвяціліся. Святатацкім чынам адносна гэтых асобаў ёсць прычыненне фізічнай шкоды, здзек, высмейванне іх менавіта таму, што яны аддаліся Богу. Святатацтвам трэба лічыць таксама чыны супраць святарскага цэлібату і манаскай чысцасці.

## Прабачэнне святатацкага граху

Святы Тамаш Аквінскі тлумачыць, што грэх святатацтва звязаны з асобай або рэчамі, якім належыць пашана па прычыне іх адносін да Бога і да святасці. Святатацтва тым большае, чым большая святасць датычыць (пар. Thomas Aq., STh II-II, q. 99). Падобна да кожнага граху, святатацтва як свядомы і добраахвотны чын ёсць вынікам паслаблення веры ў прысутнасць Бога ў святых месцах, асобах, рэчах ці абрадах, а таксама наступствамі эгаізму або іншых грахоў. Езус сказаў св. Фаўстыне Кавальскай: *"Няхай не баіцца наблізіцца да Мяне ніводная душа, нават калі б яе грахі былі, як пурпур. Мая міласэрнасць такая вялікая, што на працягу ўсёй вечнасці не спасцігне яе ніякі розум – ані чалавечы, ані анёльскі"* (Дзённік, 699). Шчырае вызнанне граху святатацтва на споведзі вядзе да паяднання з Богам і Касцёлам.

# Простые правила для хорошего отдыха

**Я немножко перефразирую знаменитую фразу из не менее знаменитой комедии Н. В. Гоголя «Ревизор» – «К нам едет ревизор!»: к нам приближается лето! То долгожданное время отпусков, отдыха.**

**Марина Ткач**, *социальный педагог, психолог*



Кто-то из нас в отпуске будет путешествовать, кто-то нежится в лучах солнца, слушая шум волн, может быть, вы отправитесь на дачу или в деревню, а может, просто останетесь дома. Но, так или иначе, отпуск – это время, которого мы с нетерпением ждем весь год. От него зависит наше дальнейшее самочувствие и работоспособность.

И пока до летнего зноя еще далеко и у нас есть достаточно времени, предлагаю вам начать планировать свой отдых. Да-да, именно планировать! Подумайте уже сейчас, где, с кем, в чем и главное как вы проведете свой отпуск. Лето – это солнце, счастье, хорошее настроение, конец всяческим депрессиям и унынию, новые и яркие эмоции. И именно все это должно в последующем послужить источником хорошего самочувствия и работоспособности на весь следующий трудовой год.

Еще замечу, что, как показывают исследования, на которые ссылается американский психолог Кристиан Джарретт (Christian Jarrett), эффект от отпуска многие люди ощущают всего лишь две-четыре недели.

И для того, чтобы этого не случилось, а отдых действительно был полноценным, качественным и принес удовлетворение, хочу предложить вам несколько простых правил:

1. Изречение о том, что лучший отдых – это смена деятельности, всегда актуально. Однако это не означает, что нужно срочно переключаться с одного вида деятельности на другой. Безусловно, если вы работаете с утра до ночи, то дел может накопиться достаточно: дом или машина, которые требуют ремонта, дачный участок, заросший сорняками, дальние родственники, настаивающие на визите... Однако, смена одной работы на другую – это не отдых.

2. Чтобы набраться сил и избавиться от хронической усталости, необходимо переключение с работы именно на отдых. Причем отдыхать стоит так, чтобы почувствовать контраст с повседневностью. Это могут быть походы в кино, театр, на выставки, прогулки и т.д. В общем всё то, на что в повседневной, рабочей жизни вам не хватает ни сил, ни времени.

3. Для людей, занятых физическим трудом или другой активной работой, идеально подойдет отдых пассивный – SPA, пляж, бассейн или спокойные прогулки на свежем воздухе. Если человек занят интеллектуальным трудом, то «проветрить голову» отлично помогает активный отдых, например, турпоход или горнолыжный курорт. Монотонную деятельность лучше разбавить яркими впечатлениями: насыщенная мероприятиями программа отдыха будет как нельзя кстати.

4. Крайне важно отдыхать полноценно хотя бы раз в год. Копить отпуска – это прямой путь к переутомлению и хронической усталости.

5. Отдых требует смены декораций. Диван и телевизор, активное пользование интернетом, общение в социальных сетях и т.д. не позволят вам полноценно восстановить силы. И даже наоборот: такой псевдоотдых не даст расслабиться нашей психике, мы постоянно будем находиться в эмоциональном напряжении.

6. Хотя отпуск – это долгожданная пора, бывает, что и она надоедает. Причем такая проблема, по мнению психологов, появляется у многих людей. Это действительно неприятно, когда начинаешь считать дни до выхода на работу. Поэтому отдыхать нужно не меньше, чем две недели подряд и не больше, чем четыре. Именно за этот период наш организм адаптируется к новым «биоритмам» и восстанавливает силы.

7. Выбирайте отпуск по контрасту с основной рабочей деятельностью.

8. Отпуск должен эмоционально вас захватить. Если вы будете сидеть в шезлонге у бассейна, то мысли о работе все равно могут вас посещать. А вот в веселой компании или за будоражащим кровь видам отдыха, таким как, например, прыжок с парашютом, мысли о работе улетучатся очень быстро.

9. Перед тем, как уйти в отпуск, лучше закончить на работе все начатые дела или передать их кому-то другому и психологически настроиться на отдых. В противном случае мысли о незавершенном деле могут преследовать вас даже на отдыхе.

10. Мобильный телефон, компьютер – все, без чего вы не можете обходиться на работе, лучше либо оставить дома, либо использовать по минимуму. В современном мире нам приходится ежеминутно воспринимать огромный поток информации. Причем не только воспринимать, но также отсеивать нужное от ненужного, а это, согласитесь, достаточно энергозатратный процесс.

Поэтому постарайтесь минимизировать этот поток информации. Возьмите себе за правило каждый день хотя бы на один час либо на 30 минут выключить телевизор, компьютер, интернет и просто побыть в тишине, почитать книгу, которую давно собирались прочесть либо просто прислушаться к себе. В данном случае состояние одиночества, о котором мы с вами уже говорили, пойдет только на пользу.

Отдыхом не следует пренебрегать, ведь он омолаживает тело, разум и дух, важен для физического и психического здоровья, снижает на пятьдесят процентов потребность нашего организма в кислороде, уменьшает сердечную нагрузку на тридцать процентов, снижает повышенное кровяное давление, улучшает кратковременную и долговременную память.

Еще бы я хотела затронуть такой вопрос, как отдых и тип темперамента.

Все мы знаем такие типы темперамента, как сангвиник, флегматик, холерик и меланхолик. Так давайте же поговорим, как правильно организовать свой отдых в зависимости от темперамента.

### Отдых для энергичного холерика

Холерики подвижны, склонны к авантюрам, гиперактивны наряду с агрессией, резкой сменой настроения и повышенной эмоциональностью. Общая рекомендация по восстановлению сил для этих сверхэнергичных личностей – активный отдых с чередующимися типами физических нагрузок. Они помогут смягчить конфликтный характер, выплеснуть негатив. Например, холерику идеально подойдет комбинированный поход, сочетающий в себе велосипедный маршрут с пешими переходами и рафтингом (спортивный сплав по горным рекам и искусственным гребным каналам на 6-, 4- и 2-местных надувных судах (рафтах). Придутся по душе и горные лыжи, и дайвинг, и верховая езда. Не забудьте только экипироваться «от и до», иначе досадные мелочи могут испортить вам настроение.

Разумеется, подобные походы и поездки следует отложить до полноценного отпуска длиной в две недели, которого, кстати, холерику хватит для восстановления сил.

### Отдых для жизнерадостного сангвиника

Этот тип людей отличают оптимизм, дружелюбие, отсутствие агрессии и любовь к перемещениям, одним словом, «зажигалки» в любой компании. Положительные эмоции – вот залог отличного отдыха для сангвиников, и неважно, будут это пара часов или отпуск длиной в месяц. Что касается последнего, то маршрут по типу «3 страны за 2 дня» или посещение экзотических земель больше всего придутся по душе этому пытливому складу характера. Лучшим показателем, что путешествие удалось, будет полная усталость отдыхающего от свежих впечатлений.

Что касается выходных, то экскурсия, посещение интересной выставки – как в дружеской компании, так и наедине с собой, – небольшое путешествие в соседний город придутся как нельзя кстати.

Если до выходных и отпуска далеко, прекрасно восстановят силы сангвиника пара часов, уделенных любимому делу. Кратковременный отдых, посвященный занятиям по душе, поможет почувствовать себя полным сил гораздо быстрее, чем пассивное лежание в лучшем фешенебельном отеле или дома.

### Отдых для уравновешенного флегматика

Наиболее спокойный из всех темпераментов – флегматик – к тому же самый невозмутимый и внешне безэмоциональный тип личности. Любовь к тишине, спокойствию делает идеальным местом для отпуска всевозможные санатории, пансионаты, базы отдыха в малолюдных местах, а также отдых в деревне. В общем, везде, где есть возможность почитать любимую книгу в тишине, наслаждаться природой, быть наедине с собой. Желательно без наличия соседствующих шумных компаний, вечеринок до утра, дискотек и экскурсий с толпой слушателей.

Если флегматик выбирает отдых на море, ему нужно позаботиться об отпуске длиной не менее месяца. Такой тип людей очень долго адаптируется к новым лицам и обстановке.

Если флегматик не может устроить себе долгий отдых, прекрасной альтернативой будет поход в бассейн или чтение книги в спокойной обстановке.

### Отдых для чувствительного меланхолика

Самый ранимый, творческий и чутко реагирующий на происходящее меланхолик ждет от отдыха новых чувств, идей и мыслей, которыми жаждет вдохновиться с самого начала путешествия. Одиночество меланхолики плохо переносят, поэтому идеальным вариантом компании станет пара друзей-единомышленников. Меланхолик всеми силами стремится настроиться на отдых, заранее определить дату, купить билеты. География путешествия особой роли не играет, важнее красивые пейзажи, недолгие перелеты и переезды в богатые историей места, где есть что посмотреть.

При выборе отдыха по типу темперамента учтите, что это не догма, а всего лишь рекомендации. Поэтому прислушивайтесь прежде всего к себе, своим предпочтениям и желаниям увидеть определенные места или людей. И учтите: отдыхать нужно так, чтобы вы вернулись на работу бодрыми, полными планов и идей, ну и, конечно же, с желанием свернуть горы!

И в конце хочется обратиться к тем, кто не мыслит себя без работы. Отпуск – это не лень и разгильдяйство, это возможность восполнить запас сил и бодрости.

Трудоголики должны помнить, что отсутствие отдыха негативно сказывается не только на них, но и на семье, друзьях и близких. Отдыхать нужно обязательно. Только так вы сможете сохранять энергию для плодотворной работы. Надо уметь отдыхать правильно.

**Желаю вам хорошего и приятного отдыха!**

*З пошты рэдакцыі*

# З Богам жыць – прыгожа і годна!

**Бога любіць – гэта значыць, прыгожа жыць. Калі мы нараджаемся, нашы бацькі перш за ўсё нясуць нас да Бога. Святы хрост перамяняе нас. Душа і сэрца з Богам. Мы расцём, адкрытыя для Бога, для сваіх бацькоў. Душа дзіцяці верыць усім і ўсяму. Проста верыць. Верыць і радуецца сонцу, кветкам, усяму жывому.**

Бягуць гады, і дзеці ідуць у дзіцячы сад, потым – у школу, у іншыя навучальныя ўстановы і далей – у само жыццё. Калі на працягу гэтага часу мы сустрэлі адкрытыя сэрцы сваіх настаўнікаў, то гэта добра. Цяпер самім трэба не закрываць свае сэрцы для любові, для дабра. Трэба любіць настаўнікаў, сваіх сяброў. Проста любіць усё: неба, сонца, ваду, лес, кветкі, птушак. Любіць зямлю і ўсё, што на ёй, бо сама зямля – святая. Бог стварыў яе і Сам хадзіў па ёй. Нам трэба цалаваць зямлю, бо ўсё, што на ёй, дадзена Богам.

Пан Міласэрнасці не хоча нікога караць. Ён усіх любіць і ўсё дае са сваёй рукі. Яго воля. Пан дае добрых бацьку і маці, добрых бабулю і дзядулю, добрых суседа, выхавальніка, настаўніцу. Дае нам розум, каб мы маглі шчыра працаваць, маглі пісаць кнігі, маляваць абразы. Дае ўрачоў, дае ксяндзоў, дае касцёлы і капліцы.

Кожная секунда Божая. Ён разам з намі. Ён з намі ўсюды ва ўсе поры дня і ночы. Вока Яго над намі. Прасі – і дасць, стукай – і адкрые. Ягоны дух вядзе – нясе нас. Трымае, каб мы не пакалечыліся, хавае ад ворага. Туліць да сябе, кажа: "Глядзі, як добра са Мной!" Любіце адно аднаго сардэчна – не будзе зла, не будзе граху, не будзе плачу, не будзе сораму, не будзе хвароб, не будзе вайны і голаду. Кіньце ўсе свае грахі, кіньце ваяваць, кіньце дзяліць зямлю, кіньце спрэчкі, хто багаты ці бедны. Усё дае Пан.

Калі ты сёння багаты і злы, то можаш ужо ноччу стаць бедным. Бо не наша воля. І сваё багацце, калі яно ў граху, не ўтрымаеш: рукі слабыя. А вось рукі Пана моцныя, моцныя і ласкавыя.

Бог не падмане. Ён дае чалавеку свабоду: выбірай і жыві. Выбірай любоў, кліч Бога, праслаўляй Бога, дзякуй Яму. Звярніся да Бога, бо ўся праўда ў Ім, усё шчасце ў Ім.

Хвала Табе, Божа, што мы можам жыць так прыгожа і ў такой бяспецы!

*Альдона*

# ЦІ ВАРТА ЎЖЫВАЦЬ У БЕЛАРУСКАЙ МОВЕ НАЗОЎНІК "РАБЯТЫ"?

**Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Слова *рабяты* час ад часу ўжываецца ў публіцыстычным стылі, пераважна ў раённым перыядычным друку. Асабліва калі гаворка ідзе пра тыя ці іншыя школьныя справы, дзе вучні – галоўныя героі аповяду. І значна часцей можна пачуць названую лексему ў вуснай камунікацыі, у тым ліку і ў маўленні настаўнікаў, якія гавораць па-беларуску. Фразы кшталту *"Рабяты, супакойцеся!"* або *"Рабяты пайшлі дадому"* мы нярэдка чуем з вуснаў настаўнікаў, уключаючы і прадметнікаў-філолагаў. Але ці варта выкарыстоўваць у нашай мове назоўнік *рабяты*? Паспрабуем разабрацца.

Слова *рабяты* практычна не ўжывалася ў беларускай мове ў першай палове ХХ стагоддзя. Так, у прыватнасці, у "Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку" Вацлава Ластоўскага (Коўна, 1924) зафіксавана: *"Ребя*, ср. *Ребенок* м. *– дзіця, дзяцё, дзіцятка, дзяцюк*" (с. 609). "Беларуска-рускі слоўнік" 1926 года выдання таксама не падае ў беларускай частцы лексему *рабяты*. Толькі ў другой палове мінулага стагоддзя на хвалі імклівай русіфікацыі беларускай лексікі назоўнік *рабяты* ўводзяць у нашы слоўнікі і рэкамендуюць выкарыстоўваць як прымальную для нашай мовы адзінку. Напрыклад, у "Руска-беларускім слоўніку" 1982 года чытаем: *"Ребята (молодежь обоего пола) – рабяты; веселые ребята – вясёлыя рабяты* (т. 2, с. 325). "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" фіксуе слова *рабяты* з тлумачэннем *"хлопчыкі і дзяўчынкі; дзеці"* (Мінск, 1980. – Т. 4, с. 551).

Штучнасць слова *рабяты* ў беларускай мове выразна бачная, калі прыгадаць, што руская форма *ребята* – гэта множны лік ад *ребёнок* (пар. у рускай мове: *котята – котёнок, телята – телёнок* і г.д.). Прафесар П. Сцяцко ў сувязі з гэтым звяртае ўвагу, што ў рускай мове "паказчык множнага ліку *-ят-а* далучаецца да скарочанай утваральнай асновы: *реб-ёнок → реб-ята*. У беларускай літаратурнай мове гэтага не адбываецца: фармант множнага ліку *-ят-* далучаецца да асновы адзіночнага ліку: *арляня → арляняты, ваўчаня → ваўчаняты*. Таму структура слова *рабяты* вымагае бачыць у ім утварэнне ад *рабя: рабя → рабяты*" (Сцяцко П. Культура мовы. – Мінск, 2002. – С. 416). Але ж такога слова ў нашай мове проста няма.

Падсумоўваючы сказанае, адзначым, што не варта выкарыстоўваць ні ў вусным маўленні, ні тым больш у пісьмовых тэкстах кальку з рускай мовы *рабяты*. Тут дарэчы прыгадаць, што і акадэмічны "Слоўнік беларускай мовы" (Мінск, 2012) не падае назоўнік *рабяты*. Гэта па сутнасці азначае нямэтазгоднасць увядзення русіфікаванай словаформы ў любы беларускамоўны кантэкст. Па-беларуску ж у залежнасці ад канкрэтнай сітуацыі мы можам сказаць: *хлопцы, хлопцы і дзяўчаты, дзеці*. Але не *рабяты*. А назва знакамітай савецкай камедыі, што ў арыгінале гучыць як "Весёлые ребята", на нашу думку, найлепш па-беларуску перадаецца праз спалучэнне "Вясёлая моладзь".


Кадр з фільма «Вясёлая моладзь»

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**17 мая 2015 г.** **Ян 17, 11-19**

Вучань Хрыста будзе ісці дарогай Езуса. Гэта значыць, будзе, як Езус, адкінуты, будуць яго ненавідзець і пераследаваць, але разам з гэтым ён будзе таксама асвечаны праз Бога. Гэта Езус асвячае сваіх вучняў і просіць Айца аберагаць іх ад зла. Не просіць забраць іх з гэтага свету, але просіць захаваць ад злога.

*– Ці разумею, што я патрэбны свету, каб праз маё жыццё, мае словы і ўчынкі ўбачыў свет Хрыстовай навукі?*

*– Ці не пазбягаю гэтага вялікага пакліканя – сведчыць, што Езус жыве?*

*– Ці аднаўляю ў сабе свядомасць таго, што я – уласнасць Езуса?*

*– Ці ахвярую сябе і сваё жыццё Богу (напрыклад, праз малітву ахвяравання Сэрцу Езуса)?*

*– Ці аддаю сваё жыццё пад матчыну апеку Божай Маці?*

*– Ці прашу ў штодзённай малітве "Ойча наш" свядома і шчыра Айца збавіць мяне ад злога?*

*– Ці радуюся, што Езус моліцца за мяне?*

*– Ці памятаю, што я пастаянна знаходжуся пад Божай апекай?*

*– Ці клапачуся пра еднасць з братамі ў веры?*

*– Ці гэтая еднасць заснавана на вернасці Богу? А можа, на падпарадкаванні сабе людзей?*

*– Ці шаную іншасць і рознасць маіх братоў, каторыя, як і я, з'яўляюцца часткай Хрыстовага Касцёла?*

**23 мая 2015 г.** **Ян 20, 19-23**

Вучні павінны працягваць місію Езуса. У імя Бога ў Тройцы Адзінага павінны адпускаць грахі. Гэта падараваны ім Святы Дух дзейнічае ў іх, праз іх, а таксама праз Касцёл. Ён працягвае Езусаву справу збаўлення праз вучняў. Святы Дух у сэрцы Касцёла перамяняе Касцёл, і ён ужо не свецкая арганізацыя, але святая супольнасць, ажыўленая сапраўднай прысутнасцю Бога. Супольнасць, у якой і праз якую дзейнічае Бог.

*– Ці ўсведамляю сабе, што ў супольнасці Касцёла дзейнічае жывы Бог?*

*– Ці гляджу на жыццё і дзейнасць Касцёла, заўважаючы ў ім святога Бога, Які ёсць у сэрцах слабых людзей?*

*– Ці, удзельнічаючы ў жыцці Касцёла, не паводжу сябе так, быццам гэта толькі свецкая ўстанова?*

*– Ці шукаю моцы Божага Духа, калі бачу праблемы ў жыцці Касцёла?*

*– Ці не спрабую разабрацца з канфліктнымі сітуацыямі ў Касцёле па-свецку, не ўлічваючы патрабаванняў Евангелля?*

*– Што раблю, каб Касцёл быў Божым домам, адкрытым на Святога Духа?*

*– А я слухаю Божага Духа?*

*– Ці паслухмяны я натхненням Божага Духа?*

*– Ці шукаю Божай волі?*

*– Ці разважаю над Божым словам?*

*– Ці паслухмяны я навучы Касцёла?*

**31 мая 2015 г.** **Мц 28, 16-20**

Бог, Які нас стварыў… Бог, Які нас збавіў… Бог, Які нас асвячае… Ён, Адзіны ў Трох Асобах, пасылае сваіх вучняў прывесці іншых да Яго. Ён хоча, каб кожны чалавек акунуўся ў любоў Бога, Які стварыў нас здольнымі любіць. Ён вызваліў нас ад зла і смерці, якія забіваюць у нас любоў. Ён нас асвячае, каб мы ўмелі любіць. Бог дзейнічае цяпер і цяпер нас любіць.

*– Што я раблю з дарам жыцця, які атрымаў ад Бога?*

*– Ці прымаю прабачэнне, якім Бог мяне адарыў?*

*– Ці дазваляю Богу ўдасканальваць мяне?*

*– Ці веру, што Ён дзейнічае ў маім жыцці цяпер?*

*– Ці дапамагаю іншым сустрэцца з жывым Богам?*

**7 чэрвеня 2015 г.** **Мк 3, 20-35**

Езус, моцны Святым Духам, выконвае справу збаўлення. Прыпісванне Яму супрацоўніцтва з д'яблам з'яўляецца злосным сумненнем у магутнасці Бога-Святога Духа. Хто адкідае моц Божага Духа, закрываецца на Божую ласку. Такія паводзіны чалавека вельмі небяспечныя, бо робяць яго няздольным прыняць Божае прабачэнне. А чалавек, няздольны прыняць Божую міласэрнасць, ужо зараз знаходзіцца ў небяспецы вечнага пакарання ў пекле.

*– Ці нараджае мая вера любоў?*

*– Ці не надта лёгка адкідаю натхненні Святога Духа?*

*– Магчыма, няшчыра спавядаюся і па-святатацку прымаю Святую Камунію?*

*– Магчыма, я захапіўся магіяй або раблю іншыя ўчынкі пагарды да Бога і Яго спраў?*

*– Ці шчыра прашу Бога аб прабачэнні ўсяго дрэннага ўва мне?*

*– Ці слухаю Божую волю?*

*– Ці дазваляю Богу правіць у маім жыцці магутнасць Яго дабра, любові і прабачэння?*

*– Ці паслухмяны я Божым натхненням?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

# Каляндар на чэрвень



**Чэрвень прысвечаны Сэрцу Езуса. Чэрвеньскія набажэнствы на ўшанаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса маюць багатую гісторыю, карані якой ідуць з канца XIX ст. Чэрвеньскае набажэнства – гэта пабожная практыка, праз якую мы выяўляем нашу падзяку за тую вялікую любоў, якой нас адорвае Езус Хрыстус. Гэта набажэнства складаецца з адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту і спеву або прамаўлення Літаніі да Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**

**Марына Ткач**

**4 чэрвеня – свята Цела і Крыві Хрыста.**

Божае Цела – распаўсюджаная назва ўрачыстасці Найсвяцейшага Цела і Крыві Хрыста, якая адзначаецца ў чацвер пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы. У цэлебрацыі ўрачыстасці Божага Цела Касцёл складае падзяку Збаўцу за дар Найсвяцейшага Сакраманту, у якім Ён сам прабывае са сваім народам.

У гэты дзень або ў наступную пасля яго нядзелю адбываецца працэсія, у якой Найсвяцейшы Сакрамант з пашанаю нясуць па вуліцах гарадоў і вёсак.

**12 чэрвеня – свята Найсвяцейшага Сэрца Езуса.**

Урачыстасць Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Каталіцкім Касцёле – свята, прысвечанае ўшанаванню Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста. Адзначаецца ў пятніцу, на восьмы дзень пасля ўрачыстасці Божага Цела Хрыста і на дванаццаты дзень пасля ўрачыстасці Найсвяцейшай Тройцы. Сэрца Хрыста з'яўляецца сімвалам любові Бога да людзей. Такім чынам гэтае свята адлюстроўвае падзяку Богу за Яго любоў і дараванае збаўленне.

У літургічным календары ўрачыстасць Сэрца Езуса з'явілася параўнальна нядаўна – яна была ўстаноўлена Папам Піем IX у 1856 годзе. Яе ўстанаўленне было замацаваннем ужо існай шматвяковай традыцыі асаблівага шанавання Сэрца Збаўцы.

Своеасаблівы штуршок у развіцці ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса быў звязаны з імем сястры законнай Маргарыты Марыі Алякок. Гэтай манахіні, якая жыла ў XVII стагоддзі, Збаўца з'яўляўся некалькі разоў і выказаў жаданне, каб Яго Сэрца ўшаноўвалася ва ўсім свеце.

У XVI стагоддзі, асабліва дзякуючы ордэну езуітаў, культ Сэрца Езуса дасягае апагею. У 1672 г. а. Ян Эд, які быў спаведнікам сястры Маргарыты Марыі Алякок, адслужыў з дазволу біскупа першую святую Імшу ў гонар Сэрца Езуса Хрыста.

Апостальская Сталіца на працягу ста гадоў не абвяшчала новае свята афіцыйна. Першы дазвол быў атрыманы польскімі біскупамі ад Папы Клімента XII у 1765 годзе, а ў 1856-ым Папа Пій IX увёў літургічнае святкаванне Найсвяцейшага Сэрца Езуса як абавязковае для ўсяго Касцёла. Папа Пій XII прысвяціў ушанаванню Сэрца Езуса спецыяльную энцыкліку ў 1956 г.

**13 чэрвеня – успамін Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята, прысвечанае ўшанаванню Беззаганнага Сэрца Багародзіцы. Адзначаецца ў суботу, на наступны дзень пасля ўрачыстасці Найсвяцейшага Сэрца Езуса. Сэрца Марыі з'яўляецца сімвалам любові Багародзіцы да людзей, а таксама міласэрнасці і спачування да чалавецтва, за выратаванне якога Яна няспынна ўзносіць малітву.

**18 чэрвеня – гадавіна пасвячэння катэдры ў Віцебску.**

**24 чэрвеня – Нараджэнне святога Яна Хрысціцеля.**

Святы Ян Хрысціцель з'яўляецца апошнім старазапаветным прарокам, які сваім жыццём закрывае эпоху Старога Запавету і з'яўляецца прарокам новай фармацыі – Новага Запавету.

Ён нарадзіўся на паўгода раней за Хрыста і ў маладым узросце адасобіўся ў Юдэйскай пустыні, дзе вёў вельмі строгае аскетычнае жыццё. Там ён адчуў пакліканне абвяшчаць набліжэнне Божага валадарства і пачаў удзяляць хрост пакаяння ў Іардане. Вакол яго сабралася супольнасць вучняў, да якой спачатку належалі і некаторыя з апосталаў (Андрэй, Ян). Прыняць ад яго хрост прыйшоў сам Езус. Як і любы прарок, св. Ян Хрысціцель сустракаў на сваім жыццёвым шляху перашкоды, абыякавасць і варожасць.

**29 чэрвеня – урачыстасць Святых Апосталаў Пятра і Паўла.**

Святыя Апосталы Пётр і Павел з'яўляюцца заснавальнікамі і падмуркам Касцёла. Наступнікам Пятра ёсць Папа Рымскі, які працягвае яго служэнне ў Касцёле.

**На чэрвень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскіх пасвячэнняў у наступных святароў і біскупаў:**

- **1 чэрвеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Эдвард Ахрамовіч** (Опса);
- **6 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **бр. Францішак Бука OFMCap** (Верхнядзвінск);
- **9 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Тамаш Міка OP** (Віцебск);
- **11 чэрвеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Аляксандр Жарнасек** (Орша); дзень нараджэння адзначае **кс. Валерый Марціноўскі** (Люблін);
- **13 чэрвеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Анджэй Возьняк SCJ** (Паставы), **кс. Аляксандр Дулінец** (Падсвілле), **а. Сяргей Мацюшонак OFMCap** (Віцебск), **а. Ян-Валерыян Хернік OFMConv** (Удзела); **імяніны адзначаюць кс. Антон Лагунёнак** (Канстанцінава), **кс. Алег Півавар** (Лёзна);
- **14 чэрвеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **а. Віталь Сапега OP** (Віцебск);
- **17 чэрвеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** (Варапаева), **кс. Анджэй Бульчак** (Паставы), **кс. Кшыштаф Сілкоўскі SCJ** (Шаркаўшчына);
- **19 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Анджэй Возьняк SCJ** (Паставы), **кс. Аляксандр Жарнасек** (Орша);
- **23 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Юрый Катовіч OFMCap** (Докшыцы);
- **24 чэрвеня** – імяніны адзначаюць **кс. Іван Кароткін** (Віцебск), **кс. Ян Пугачоў** (Германавічы), **а. Ян-Валерыян Хернік OFMConv** (Удзела);
- **27 чэрвеня** – імяніны адзначае **кс. біскуп Уладзіслаў Блін**, біскуп на пенсіі;
- **29 чэрвеня** – імяніны адзначаюць **кс. Павел Кнурэк** (Лынтупы), **кс. Пётр Кубіцкі SAC** (Талачын), **а. Павел Мажэйка** (Віцебск), **кс. Павел Самсонаў** (Дунілавічы), **а. Шымон Фарайтэр OMI** (Шуміліна), дзень нараджэння і імяніны – **а. Пётр Ясевіч OFMCap** (Ваўкалата);
- **30 чэрвеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Баран** (Навалукомль).

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў.**

# Адкрыты ліст-віншаванне ксяндзу Марату Казлоўскаму – пробашчу касцёла Святога Яна ў Мосары

**Шаноўны ксёндз Марат!**

Са словамі шчырага прывітання і сардэчнага віншавання з гадавінай Вашых святарскіх пасвячэнняў звяртаецца да Вас Марыя Ючкавіч, парафіянка касцёла імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве. Маё навяртанне звязана непасрэдна з часам Вашага служэння ў нас, у Параф'янаўскай парафіі. Я і зараз з вялікай удзячнасцю ўспамінаю, як пасля шматгадовага перапынку, выкліканага жыццём у грамадзянскім шлюбе, прыйшла да Вас на споведзь. Тады я вельмі хвалявалася, думала: "А што скажа пробашч Марат?" А Вы пасля маёй такой няпростай для мяне споведзі сказалі такія простыя і разам з тым такія важныя і прыемныя словы: "Віншую! Цяпер Вы сталі сапраўднай хрысціянкай". І я стараюся такою быць ва ўсім: у малітвах, думках і ўчынках.

Пра свой шлях да сапраўднай малітвы – сталай, удумлівай, шчырай – хачу сказаць асобна. Калі ў мяне не хапала часам настойлівасці, цярпення, каб маліцца да Бога з усёй увагай і пашанай, тады я, бывала, скардзілася на сябе, грэшную, ксяндзу Марату. А ён з добрай усмешкай казаў: "Вучні таксама незаўсёды з ахвотай робяць тое, што ім зададзена на дом. Але ж гэта трэба рабіць кожны дзень з большай або меншай старраннасцю. І гэта дасць нарэшце свой плён".

Простыя і мудрыя словы, зацікаўлены, уважлівы, добразычлівы погляд вачэй. Я добра памятаю гэта, як памятаю і нашу сумесную працу пад мастацкім кіраўніцтвам сястры Крыспіны над сцэнарыем дзіцячай пастаноўкі, прысвечанай 100-годдзю нашага касцёла ў Параф'янаве.

А ў мінулым, 2014 годзе мне выпаў вялікі гонар стаць аўтарам слоў гімна параф'янаўскага касцёла, які выконваўся ўжо падчас 110-й гадавіны нашай слаўнай святыні. Гэта аўтарства паспрыяла яшчэ і таму, што я памяняла нязвыклае для нашай мясцовасці прозвішча Дзюбак на сваё радавое Ючкавіч, бо і мае продкі прымалі непасрэдны ўдзел у будаўніцтве нашага роднага, такога велічнага і прыгожага касцёла.

А нядаўна, у лютым 2015 года, пабачыла свет мая новая кніга духоўнай паэзіі пад назваю "Дарога да касцёла".

Міжволі задумваюся: "Што ж паслужыла пачаткам усіх гэтых значных для мяне падзей?" І не сумняваюся, што Ваша роля, шаноўны ксёндз Марат, у маім духоўным станаўленні вельмі значная, дакладней – неацэнная, бо менавіта Вы дапамаглі мне знайсці сапраўдную дарогу да касцёла, да веры, да духоўнасці.

Паважаны ксёндз Марат! З усёй маёй шчырай удзячнасцю і сардэчнай цеплынёй прысвячаю Вам гэтыя вершаваныя радкі:

*Жадаю плёну ў працы і натхнення,*
*Здароўя моцнага на доўгія гады.*
*Апека Божая і бласлаўленне*
*Хай будуць з Вамі ўсюды і заўжды!*

*І шчодрых Вам Дароў Святога Духа,*
*І аптымізму ў наш няпросты час.*
*Хацелася б пабачыць Вас, паслухаць.*
*З удзячнасцю малюся я за Вас!*

***З вялікай павагай,***
***Марыя Ючкавіч –***
***парафіянка касцёла***
***імя Найсвяцейшай Панны Марыі***
***ў Параф'янаве***

### *Шаноўны ксёндз Аляксандр Дулінец!*

*Сардэчна віншуем Вас з Днём Анёла, які Вы адзначаеце 3 мая. Маючы духоўныя дараванні і пастаяннае жаданне дапамагаць людзям, Вы здабылі любоў і павагу вернікаў. Ваша духоўная мудрасць і палымянае сэрца садзейнічаюць узрастанню багатых пладоў на ніве Божай.*

*Жадаем Вам добрага здароўя, моцнай вытрымкі на шляху служэння Богу і людзям!*

***З павагай і шчырай удзячнасцю, вернікі з парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса (г.п. Падсвілле)***

### *Віншуем!*

*Катэхетычная група і ўсе вернікі парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Марыі Панны з аграгарадка Удзела віншуюць і выказваюць падзяку нашым цудоўным айцамфранцішканам за іх нястомную працу, за старанне паглыбляць нашу веру, за імкненне наблізіць нас да Пана Бога.*

*24 красавіка – дзень нараджэння айца Яна. У дзень Маці Божай Фацімскай айцец Вальдэмар адзначыць дваццаціадовы юбілей святарскіх пасвячэнняў. 29 мая – дзень святарскіх пасвячэнняў у нашага пробашча айца Яраслава.*

*Шчыра віншуем Вас, нашы дарагія айцы! Няхай Добры Бог адорвае Вас усімі неабходнымі ласкамі, а Маці Божая заўжды ахінае Вас сваім плашчом. А запаленая ў Вашых сэрцах іскра паклікання няхай разгараецца ясным полымем на доўгія-доўгія гады. Шчаслівага Вам святарскага і манаскага жыцця і моцнага здароўя!*

***Удзячныя парафіяне***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*13 красавіка **ксёндз Сяргей Сурыновіч** адзначыў Дзень нараджэння. Віншуем яго з гэтай нагоды і выказваем вялікую пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве. Шчыра дзякуем за навуку, што набліжае нас да Бога, за ўзнёслыя набажэнствы, за рэкалекцыі для вернікаў. Дзякуючы нашаму пробашчу касцёл прыгажэе, з'яўляюцца абразы святых.*

*Багатага плёну ў Вашай дзейнасці, ксёндз Сяргей, моцнага Вам здароўя! Хай Добры Бог адорвае Вас сваім айцоўскім блаславеннем. Памятаем пра Вас у малітве.*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Друі***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Велікодныя рэкалекцыі ў парафіі Святой Тройцы ў Друі праводзіў **ксёндз Вячаслаў Адамовіч** з Мёраў. Дзякуем ксяндзу Вячаславу за змястоўную навуку, за цікавыя размовы, за словы, што дайшлі да сэрцаў парафіян.*

*Жадаем Вам, ксёндз Вячаслаў, плённай працы на Божай ніве. Няхай Усемагутны Бог асвячае Вас сваімі ласкамі!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Друі***

### *Віншуем!*

*Парафіяльная супольнасць вернікаў, святары і законныя сёстры віцебскага катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага сардэчна віншуюць **біскупа Алега Буткевіча** з 15-годдзем яго святарскага пасвячэння і жадаюць Яго Эксцэленцыі пастаяннай Божай апекі ва ўсіх справах і пачынаннях, моцнага здароўя, аптымізму, плёну ў працы на карысць роднай дыяцэзіі і ўсяго каталіцкага свету.*

### *Віншуем!*

*Супольнасць вернікаў віцебскага катэдральнага касцёла Езуса Міласэрнага шчыра віншуе свайго пробашча **ксяндза Адама Дынака** з днём народзінаў і 17-годдзем паклікання. Удзячныя за душпастырскую апеку, дабрыню і ўвагу да людскіх патрэбаў, мы ад усяго сэрца зычым кс. Адаму добрага здароўя, моцы духу, Божае апекі ў высакароднай святарскай працы. Няхай ніколі не пакідае нашага пастыра прамень надзеі, а Божая Маці штодня атуляе яго сваёй міласэрнасцю.*

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*З 19 па 22 сакавіка ў парафіі Святога Антонія Падуанскага і Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Паставах адбыліся рэкалекцыі. Божае слова абвясціў вернікам **ксёндз Яўген Міхайлаў**. Хочацца выказаць шчырую ўдзячнасць святару за яго душпастырскую паслугу ў час падрыхтоўкі вернікаў да свята Уваскрашэння Пана. Стараннае тлумачэнне Евангелля, малітва падчас Крыжовага шляху, падрыхтоўка да сакраманту намашчэння хворых і яго ўдзяленне асаблівым чынам кранулі сэрца.*

*Жадаем ксяндзу Яўгену моцы духа ў душпастырскай дзейнасці, любові Хрыста, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай ласка Божая атуляе Вас, паважаны наш ксёндз, ва ўсіх Вашых справах на шляху служэння людзям.*

***З павагай, Наталля Лапіна (аг. Кураполле)***

### *Шаноўны ксёндз-пробашч Яцэк Хутман!*

*Прыміце нашы самыя светлыя і сардэчныя віншаванні, словы вялікай удзячнасці, шчодрай радасці і гонару з нагоды Дня Вашага нараджэння (29 мая).*

*Мы дзякуем Пану Богу за дар Вашага жыцця і за ласку сустрэчы з Вамі, за Вашу творчую самаадданую працу ў нашым касцёле і парафіі.*

*Не пералічыць усё тое добрае, што Вы зрабілі і робіце ў духоўнай і матэрыяльнай сферы жыцця касцёла. Непазнавальна змяніўся знешні выгляд касцёла і прылеглай да яго тэрыторыі, аднаўляецца і рэстаўруецца ўнутранае ўбранства святыні, наведзены парадак на парафіяльных могілках. Вы аднаўляеце гістарычную каштоўнасць нашага касцёла, па крупінках збіраеце ўсё, што звязана з яго гісторыяй і сучаснасцю. Набытыя і асвечаныя тры новыя званы, адлітыя ў гонар памятных дат касцёла.*

*Братэрскія адносіны звязваюць нас з Клюшчанскай парафіяй на Астравеччыне – роднай парафіяй паэта-святара, які працаваў у нашым касцёле ў далёкім 1915 годзе. Сёлета спаўняецца 100 гадоў гэтай падзеі.*

*Хай добры Бог і далей дапамагае Вам ва ўсіх справах, хай Дух Святы натхняе на іх, а Маці Божая і ўсе святыя апякуюцца Вамі. Хай збываюцца ўсе Вашы планы і задумы, хай радасць і любоў заўсёды будуць у Вашым сэрцы, і кожны дзень Вашага жыцця няхай будзе шчаслівым і благаслаўлёным.*

***Парафіяне камайскага касцёла***

### *Віншуем!*

*Мы, парафіяне ёдскага касцёла, што ў Шаркаўшчынскім раёне, хочам павіншаваць нашага **пробашча Юрыя Ноцуня** з днём імянін, які адзначае 23 красавіка.*

*Ксёндз Юры працуе ў нас з 2008 года. Нягледзячы на тое, што жыве ён у в. Барадзінічы Браслаўскага раёна і служыць у двух парафіях, ксёндз заўсёды адпраўляе святую Імшу па нядзелях і ў святы. Мы ўдзячныя святару, што адбываюцца Рараты падчас Адвэнту, за набажэнствы Пасхальнага Трыдуума. Ксёндз Юры добразычлівы, спакойны, ураўнаважаны, справядлівы. Мы яго любім і паважаем.*

*Няхай Езус Хрыстус, Якога ён штодня трымае ў сваіх святарскіх руках, блаславляе кожны яго дзень, Маці Божая няхай ахінае ксяндза Юрыя сваёй любоўю і апекай, а Святы Дух дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае ласкамі.*

*Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасных дзён і толькі добразычлівых людзей побач.*

***Парафіяне касцёла Маці Божай Шкаплернай, аг. Ёды***

### *Хвала Хрысту!*

*Сардэчна віншуем паважанага **ксяндза Адама Дынака** з нагоды святарскіх пасвячэнняў і дня нараджэння (30, 31 мая).*

*Шчыра жадаем усіх дароў Духа Святога, Божага благаслаўлення, плёну ў працы.*

*Няхай Матачка Божая апякуецца Вамі заўсёды, а святло ўваскрослага Хрыста асвячае шлях святарскага жыцця.*

***«Маргарытка», парафія Спаслання Святога Духа, г. Барысаў***

### *Віншуем!*

*Вернікі Лынтупскай парафіі віншуюць свайго земляка **ксяндза Уладзіміра Шымковіча**, пробашча Дубровенскай парафіі, з 10-годдзем душпастырскага служэння.*

*Сіроцкай долі горкі лёс*
*Ты праз юнацтва ўжо пранёс.*
*І ў цемры тых нялёгкіх дзён,*
*Хаця і быў ты маладзён,*
*Айцу Нябеснаму хвала,*
*Свой шлях знайшоў ты да святла!*

*Па ім і крочыш з тых часоў,*
*Спасцігшы розумам Любоў.*
*Душа твая ўжо 10 год*
*У стылых сэрцах топіць лёд,*
*І сее зерне дабрыні*
*Ды Боскай ласкі, чысціні.*

*Штодня дарогаю святой*
*Вядзеш ты й іншых за сабой.*
*І дорыш свету прыгажосць.*
*Дык, дзякуй Богу, што ты ёсць!*

*Ад шчырага сэрца жадаем кс. Уладзіміру моцнага здароўя і душэўнага спакою, цярплівасці і моцы, радасці і плёну ў нялёгкай працы на ніве Пана Бога.*

***З малітвай і ўдзячнасцю, вернікі Лынтупскай парафіі (Пастаўскі раён)***

### *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Паважаная рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"! Звяртаюцца да Вас вернікі парафіі Беззаганнага Сэрца Марыі з Оршы. Мы хочам перадаць віншаванне з днём нараджэння нашаму **ксяндзу-пробашчу Валерыю Орсіку**, які ён адзначае 11 верасня. У нашай парафіі ксёндз аддана служыць ужо шэсць гадоў.*

*Пры ім адбылося станаўленне нашай супольнасці. Прапаведнік Божага слова, праўды, міласэрнасці, ён шмат зрабіў для парафіі, але самая галоўная справа звязана з будаўніцтвам святыні. Урачыстае асвячэнне першага каменя адбылося ў чэрвені 2014 года.*

*Нашаму дарагому ксяндзу Валерыю жадаем моцнага здароўя, Божай ласкі, здзяйснення ўсіх мар. Многа Вам сілы, моцы для служэння Пану Богу! Хай Хрыстус падтрымлівае Вас, а Маці Божая аберагае! Хай заўсёды будуць вакол Вас толькі добразычлівыя людзі!*

***Вернікі парафіі Беззаганнага Сэрца Марыі***

### *Віншуем!*

*З нагоды 10-годдзя святарскіх пасвячэнняў **ксяндза Уладзіміра Шымковіча** мы, парафіяне касцёла Маці Божай Фацімскай у Дуброўне, шчыра віншуем яго са святам.*

*Жадаем моцнага здароўя, божага благаславення, апекі Маці Божай у нялёгкай справе служэння Богу і людзям.*

*Наш кс. Уладзімір з'яўляецца прыкладам сапраўднай пакоры, працавітасці, адданасці малітве. Мы вельмі любім свайго святара і дзякуем яму за цудоўны характар, за яго глыбокую духоўнасць, за навучанне, за стараннасць.*

***Парафіяне касцёла ў Дуброўне***

## Усміхніцеся!

Святар выхоўвае верніка:

– Аляксандр, гарэлка – твой найвялікшы вораг!

– А няўжо вы нам не казалі любіць сваіх ворагаў?

– Казаў! Але я не вучыў вас іх глытаць!

* * *

Малітва школьніка:

– Мілы Бог, зрабі так, каб Лондан стаў сталіцай Даніі, як я напісаў учора ў кантрольнай рабоце!

* * *

Два вернікі пасля Імшы размаўляюць:

– А ты чаго такі сумны?

– Вось учора з жонкай цэлы вечар пра адзенне спрачаўся…

– Ну і за кім жа засталося апошняе слова?

– Ха! Канешне, за мной як за галавой сям'і!

– І што ж ты сказаў?

– Бог з табой, купляй!

* * *

У хрысціянскім летніку важаты дапамагае дзецям разабрацца з іх рэчамі. Убачыўшы ў аднаго хлопчыка парасон, важаты вельмі здзівіўся і спытаў:

– Навошта табе парасон у летніку?

Хлопчык здзіўлена ўзняў вочы і спытаў у адказ:

– У Вас што, ніколі не было маці?

